

ОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

WHITERUTHENIAN NEWSPAPER "BACKAUSCYNA" ("FATHERLAND")
Responsible Publisher: Wladimir BORTNIK
Druck: „LOGOS", Buchdruckerei u. Verlag, G.m.b.H.
München 8, Rosenheimerstr. 46 a.
Post Adress: "Backauscyna", München 22, Herzog-Rudolf-Straße 49/III
Die Administration der Weißruthenischen Zeitung „BACKAUSCYNA"
München 22, Herzog-Rudolf-Straße 49/III

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 50 Н. ФЭН.

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND" | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND" | LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE"

№ 47-48 (126-127) Нядзеля 30 лістапада 1952 г. ГОД ВЫДАНЬНЯ 6

# КАБ ЖЫЛА БАЦЬКАЎШЧЫНА

«Тым, што паўсталі й пайшлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына!» Гэтыя глыбокія па свайму зьместу словы, вышытыя рукамі беларускіх сялянак на баявым сьцягу Слуцкіх паўстанцаў, як нельга лепей перадаюць адзін з найбольш яркіх мамэнтаў Слуцкага паўстаньня — бязьмежную ахвярнасьць для беларускай нацыянальна-вызвольнай ідэі, якая была заўсёды неадлучнай у гэрояў Случчыны й натхняла іх на вялікія чыны. Гэтая бязьмежная самаахвярнасьць харобрых Случчакоў, якія кідаліся ў вір змаганьня зь пераважаючымі ў дзесяць і болей разоў сіламі ворага, ведаючы згары, што гэты адважны іх чын будзе крывава зломаны, якія сьведама й наважана «ішлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына», мала мае сабе роўных у гісторыі вызвольных змаганьняў паняволеных народаў, а ў гісторыі беларускага вызвольнага змаганьня вызначае Слуцкаму паўстаньню адно з найбольш пачэсных месцаў.

У пэрыяд арганізаваньня беларускай незалежнай дзяржавы — Беларускай Народнай Рэспублікі, абвешчанай Актам 25 сакавіка 1918 году, на ўсей тэрыторыі Беларусі разгарэлася некалькі дзесяткаў большых і меншых збройных паўстаньняў, у якіх беларускі народ стыхійна падымаўся на абарону сваей вольнасьці, на якую акрываўленай лапай пасягалі расейскія бальшавікі. Падобныя паўстаньні выбухалі навет на тых частках этнаграфічнае тэрыторыі Беларусі, якія потым ня былі ўлучаныя ў склад Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі й асталіся пры Расеі. Найбольш яркім прыкладам такога агульнанароднага нацыянальнага ўзруху на паўночных акраінах нашае Бацькаўшчыны можа служыць Вяліскае паўстаньне, што колькасьцю змагароў перавышала навет Слуцкае. Ува ўсіх гэтых збройных актах беларускі народ выказаў нязвычайную станоўкасьць, нераможную ідэйную й маральную сілу, бяспрыкладную самаахвярнасьць і, напасьледак, сваю арганічную ненавісьць да расейскага акупанта.

Але найслаўнейшым укаранаваньнем усіх гэтых шматлікіх актаў народнае волі было якраз Слуцкае паўстаньне, 32-ую гадавіну якога й адзначаем мы сяньня. Каб зразумець гэтую ягоную выключнасьць, а для далейшага разьвіцьця беларускага нацыянальна-вызвольнага руху асаблівую важнасьць, неабходна, хоць у вагульных штрыхох, прыглядзіцца да найважнейшых падзеяў, якія ў той час разыгрываліся на Случчыне, як і да ходу самога паўстаньня.

*

Сярод беларускіх краінаў, Случчына — адна з паўдзённых частак нашае Бацькаўшчыны — заўсёды вызначалася асаблівай актыўнасьцю ў беларускім нацыянальна-вызвольным руху. Дык і ў 1918 годзе, калі дабегла туды радасная вестка аб тым, што Рада Беларускай Народнай Рэспублікі абвесьціла 25 сакавіка 1918 году ў Менску Беларусь вольнай і незалежнай дзяржавай, у Случчыне адразу, із собскай ініцыятывы, пачалі тварыцца выканаўчыя ворганы БНР, якія сталіся мясцовай уладай, падпарадкаванай цэнтральным вярхоўным ворганам БНР у Менску.

Гэтак паўстае ў Слуцку ў тым-жа 1918 годзе Беларускі Нацыянальны Камітэт на чале з Паўлам Жаўрыдам і разгортвае шырокую адміністрацыйна-дзяржаўную дзейнасьць. Аднак уся гэтая праца хутка была зьліквідаваная ўзародку, ня могучы яшчэ належна акрэпнуць і разьвіцца. Бальшавікі, якія ў той час пасоўваліся на захад, займаюць Случчыну, разганяюць Беларускі Нацыянальны Камітэт, а ягонага старшыню Паўла Жаўрыда арыштоўваюць. Праз два гады, у сувязі з польска-бальшавіцкай вайной і пасоўваньнем палякаў на ўсход, Случчына ў 1920 годзе пераходзіць пад польскую акупацыю. Перад самым бальшавіцкім адступленьнем удаецца Паўлу Жаўрыду ўцячы з турмы, а Беларускі Нацыянальны Камітэт у Слуцку ўзноў узнаўляе сваю дзейнасьць. Пры гэтым, дзеля самаабароны, была створаная народная міліцыя ў сіле 500 чалавек, якая потым адыграла важную ролю, бо сталася ядром будучае Слуцкае дывізыі.

Каб вырашыць дэмакратычным спосабам пытаньне дзяржаўнае прыналежнасьці Случчыны й паклікаць мясцовае нацыянальнае прадстаўніцтва, Беларускі Нацыянальны Камітэт пастанавіў склікаць зьезд Случчыны. Зьезд адбыўся 14 лістапада 1920 году ў Слуцку, у якім прымала ўдзел 107 прадстаўнікоў ад гораду Слуцку й 15 воласьцяў Случчыны. На зьезьдзе прыймаў удзел таксама й Павал Жаўрыд, ужо як камісар ураду БНР на Случчыну і як прадстаўнік Рады Беларускай Народнай Рэспублікі. Зьезд вызнаў сябе за найвышэйшае народнае прадстаўніцтва Случчыны і, як форму часовай улады, выбраў Раду Случчыны ў складзе 17 чалавек на чале з Пракулевічам.

У рэзалюцыі гэтага зьезду, між іншага, гаварылася: «Першы Беларускі Зьезд Случчыны, скліканы ў ліку 107 асобаў, вітае Найвышэйшую Раду Беларускай Народнай Рэспублікі і заяўляе, што ўсе свае сілы аддасьць на адбудову Бацькаўшчыны, катэгарычна пратэстуючы супраць заняцьця нашае Бацькаўшчыны чужацкімі й самазванымі савецкімі ўладамі. Хай жыве вольная й незалежная Беларуская Народная Рэспубліка ў яе этнаграфічных межах!»

За тыдзень пасьля зьезду, 21 лістапада 1920 году, выбраная на ім Рада Случчыны выдала дэклярацыю, у якой, між іншым, гаварылася: «У мамэнт самавызначэньня ўсіх народаў і змаганьня іх за сваю самастойнасьць і свабоду Беларуская Рада Случчыны выконвае волю сялянства, паслаўшага яе й даверыўшага ей абарону незалежнасьці нашае Бацькаўшчыны Беларусі, заяўляе ўсяму сьвету аб тым, што Беларусь павінна быць вольнай незалежнай рэспублікай у яе этнаграфічных межах. Абвяшчаючы аб гэтым і выражаючы волю народу, Слуцкая Рада дэкляруе цьвёрда стаяць за незалежнасьць роднае Беларусі і бараніць інтарэсы сялянства ад гвалту з боку чужаземных захопнікаў і ў выпадку патрэбы навет сілаю аружжа. Ня гледзячы на лічбовую перавагу ворага, думаем, што наша справа — справа праўдзівая, а праўда заўсёды закрасуе».

Ня гледзячы на гэта, пад канец лістапада бальшавікі бязь ніякага папярэджаньня ўварваліся ўзноў на Случчыну. Адважныя Случчакі, ня могучы пагадзіцца з новым гвалтам і будучы вернымі сваей пастанове, хапіліся за зброю й запынілі першы бальшавіцкі наступ. У воласьцях і вёсках паўставалі Беларускія Нацыянальныя Камітэты, як ворганы мясцовай улады, арганізавалася на сьпех вайсковая самаабарона. Рада Случчыны пачала тварыць рэгулярныя вайсковыя аддзелы, ядром якіх, як ужо ўспаміналася, сталася народная міліцыя.

Тымчасам бальшавікі зьбліжаліся да Слуцка. Час быў трывожны й кароткі, а абарона ня была яшчэ зарганізаваная. Таму галоўнае беларускае вайсковае камандаваньне, што было створанае пры Радзе Случчыны, выдала загад ужо сфармаваным вайсковым аддзелам і міліцыі пакінуць Слуцак і зьбірацца ў мястэчку Семежаве, дзе ўсіх разам згуртавалася 10.000 паўстанцаў. Тут-жа ў Семежаве сфармаваўся беларускі полк пад камандаваньнем палкоўніка Гаўрыловіча і зараз-жа, хоць ня меў дастатковай колькасьці зброі й амуніцыі, прыступіў да збройнае акцыі супраць бальшавікоў. У міжчасе ў Семежаве сфармаваўся й другі беларускі Грозаўскі полк, складзены пераважна з моладзі Грозава, пад камандаваньнем капітана Семянкова. З Слуцкага-ж і Грозаўскага палкоў стварылася першая Слуцкая дывізыя, камандаваньне якой спачатку даручанае было капітану Анцыповічу, пазьней — капітану Сокал-Кутылоўскаму.

Гэтак сфармаваная першая беларуская дывізыя 27 лістапада 1920 году пайшла ў крывавы бой за родную Беларусь, і гэты-ж дзень 27 лістапада й лічыцца пачаткам Слуцкага паўстаньня.

Спачатку баі разгортваліся каля вёсак Быстрыцы, Верабейчыцаў, Васільчыцаў, Чорнагубава, Васілішак, Дашнова, Лютавіч, Мацкевічаў, каля гораду Капыля, Цімкавічаў, Вызны ды інш. Шмат дзе паўстанцам удавалася ня толькі паўстрымоўваць бальшавікоў, але й адбіваць ад іх вёскі й мястэчкі. Так, прыкладам, паўстанцы адабралі ад бальшавікоў мястэчка Цімкавічы й іншыя мясцовасьці Случчаны. Бальшавікі мелі вялікія страты забітымі й параненымі. Шмат чырвонаармейцаў пайшло за прызывам Рады Случчыны, якая зьвярталася да іх з адумысловымі адозвамі, і здавалася ў палон або пераходзіла ў рады паўстанцаў. Бачачы гэта, бальшавіцкае камандаваньне накіравала супраць паўстанцаў найбольш верныя камуністычныя аддзелы, якія ўжо ня так лёгка здаваліся, ды праводзіла масавыя арышты й расстрэлы сярод цывільнага насельніцтва.

Беларускія паўстанцы, ня гледзячы на нябывалы патрыятычны энтузыязм і высокі баёвы дух, ня маючы належнае зброі й амуніцыі, не маглі далей даваць адпору бальшавіком і змушаны былі адступаць да ракі Лань. Пасьля гэтага, усё-ж такі некалькі разоў паўстанцам удавалася рабіць удалыя контратакі й здабываць перамогі, але абараніць роднага краю ад бальшавіцкае навалы яны не маглі. 28 сьнежаня 1920 году Слуцкая дывізыя прымушаная была перайсьці польскую мяжу. Тут яе палякі абяззброілі і інтэрнавалі, спачатку, каля Сіняўкі, а пасьля ў Беластоку. Частка паўстанцаў, аднак, не здала зброі палякам. Гэтыя паўстанцы вярнуліся назад, пайшлі ў Слуцкія лясы, зарганізаваліся ў партызанцкія аддзелы і яшчэ на працягу цэлых гадоў зь нячуванай зацятасьцю змагаліся з бальшавікамі, аж пакуль зусім ня былі пераможаны ў няроўным змаганьні.

*

Гэтак падгатаўлялася, разьвівалася і, напасьледак, закончылася Слуцкае паўстаньне, адзін із слаўных эпізодаў збройнага змаганьня беларускага народу за вольнасьць і дзяржаўную незалежнасьць Бацькаўшчыны.

На першы пагляд яно выглядае скромным і сьціплым, як колькасьцю самых паўстанцаў, адсутнасьцю вялікіх перамогаў, якія мелі-б рашаючае значэньне ў цэлым змаганьні беларускага народу з бальшавізмам, гэтак і сваім тэрытарыяльным засягам. Але не ў стратэгічных і мілітарных дачыненьнях заключаецца гістарычнае значэньне Слуцкага паўстаньня. Далёка не! Ягоная няўміручая вартасьць скрываецца ў роўніцы ідэйнай, як адно з найбольш яркіх і вымоўных выяўленьняў нацыянальнага імкненьня беларускага народу й ягонае непахіснае волі змагацца за вольнасьць і незалежнасьць Беларусі. Яно для нас зьяўляецца асабліва важным і дарагім у сувязі з тым, што шырокія масы беларускага сялянства, ня гнаныя ніякім прымусам, але дабравольна, ведзеныя гарачай любоўю роднага краю, на столькі выказалі ў сабе беларускага патрыятызму й ненавісьці да расейска-бальшавіцкага акупанта, што спантанічна кінуліся ў няроўны крывавы бой, «пайшлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына». Такім парадкам збройны Слуцкі чын быў найлепшым задакумантаваньнем глыбокага патрыятызму, нацыянальнай дасьпеласьці й бязьмежнай ахвярнасьці беларускага народу ў ягоным змаганьні за вызваленьне й дзяржаўную незалежнасьць, змаганьня ўжо ня інтэлігенцыі, але народных масаў у найшырэйшым значэньні гэтага слова.

У тыя часы ўся Беларусь палымнела ў вагні большых і меншых паўстаньняў супраць расейскага бальшавізму. Усе яны былі ськіваваныя супраць аднаго й таго самага ворага, усе яны мелі адну й тую самую мэту — вызваленьне Бацькаўшчыны. Збройны ўзрух беларускага народу ў пэрыяд 1918—1920 гадоў меў у сабе ня толькі нэгатыўны палітычны мамэнт — запярэчаньне бальшавізму й ненавісьць да расейскай акупацыі, але й глыбокі, будуючы й творчы мамэнт нацыянальны — быць вольнымі й ад нікога незалежнымі. Але паколькі бальшыня беларускіх народных паўстаньняў гэтага часу, хаця й апіралася на здаровых нацыянальных фундамэнтах, ня была аднак актам дастаткова арганізаваным і азначаным у сваё мэтанакіраванасьці. Гэта былі ў бальшыні выпадкаў скарэй за ўсё стыхійныя народныя ўзрухі, чымсьця сьведамыя сваіх мэтаў зарганізаваныя чыны.

Затое Слуцкае паўстаньне — гэта ўжо ня толькі стыхійны ўзрух беларускага народу, узрух, якіх ня толькі ў дадзены пэрыяд, але і на працягу доўгага пэрыяду няволі беларускага народу было многа. Наадварот, Слуцкае паўстаньне было агульнанародным актам, сьведамым сваіх заданьняў і сваей канчальнай мэты, дарма што падзеі гэтага паўстаньня абмежваліся да невялікай часткі Беларусі — Случчыны. Гэтай мэтай было змаганьне за захаваньне й абарону перад варожым чужацкім наступам Беларускай Народнай Рэспублікі ў ейных этнаграфічных межах, як гаворыцца аб гэтым у рэзалюцыі зьезду Случчыны й дэклярацыі Беларускай Рады Случчыны. Такім чынам Слуцкае паўстаньне зьяўлялася тады арганічным актам у працэсе адбудовы дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі.

Што Слуцкае паўстаньне мела перад сабой чыста нацыянальныя й незалежніцкія беларускія мэты, аб гэтым, на падставе вышэй сказанага, ня можа быць найменшага сумліву. Але важна тое, што ўжо іншыя тагачасныя народныя паўстаньні, увесь гэты агульнанародны збройны ўзрух, аб якім гаварылася вышэй, быў накіраваны ня столькі супраць бальшавізму, як такога, сколькі супраць паўторнай расейскай акупацыі, якая горка далася народу ў знакі яшчэ перад вайной і аб якой ён добра помніў. Бальшавізм, асабліва ягоная сацыяльная праграма, у той час ня толькі ня мог быць страшным беларускаму народу, але поўнасьцю адказваў ягоным імкненьням у галіне сацыяльнай. Пастаўлены тады бальшавікамі лёзунг — «Хвабрыкі работнікам, зямля сялянам» — ня мог ня прыцягваць да сябе сымпатыяў і беларускага народу. У тое, што пад гэтым прыгожым лёзунгам хавалася найбольш пэрфіднае ашуканства, тады яшчэ ня было падставы верыць, а аб зьненавіджаных калгасах у той час ня сьнілі яшчэ й самі бальшавікі. Таму масавае змаганьне беларускага народу з бальшавізмам у той час можна выясьніць толькі ягонай нацыянальнай дасьпеласьцю, ягонай варожасьцю да расейскага імпэрыялізму, ягонай ненавісьцю да расейскага акупанта, ягоным, зусім правільным, утажсамліваньнем бальшавізму з расейшчынай.

*

У сяньняшнія трывожныя й няпэўныя часы, калі беларускі народ крывавіцца ў жахлівай бальшавіцкай няволі і калі падыймаюцца на гарызонце грозныя хмары — прадвесьнікі новай сусьветнай

(Заканьчэньне на 3 балоне)




МІХАСЬ КАВЫЛЬ

## Пад небам Случчыны каханай

**(УРЫВАК З ПАЭМЫ)**

... А даль ляжала няжывою,
Дрыжэлі ў сполаху кусты,
І над маёю галавою
У небе коршун, як застыў...

Паўзьлі крывавыя туманы,
Ваўкі ледзь вылі ля ракі.
Стагналі, войкалі курганы,
Дзе Гаўрыловіча палкі

Пад сьцягам бел-чырвона-белым,
Рукамі вышытым дзяўчын,
Хадзілі ў бой адважна, сьмела
За волю Случчыны, за чын.

І ўжо ў руках шпяговай зрады,
Каб чула родная зямля,
Герой бясстрашны Лістапад
Ў вапошнім слове прамаўляў:

«Няхай за край абрабаваны,
Што імя мае Беларусь,
Сканаю я ў крывавых ранах
Ад вашых чорных, катніх рук, —

Ня буду плакаць і прасіцца,
Я свой народ ня зраджу век,
Бо, пакуль сэрца будзе біцца,
Хачу я звацца — чалавек».

Хоць я тады яшчэ ня ведаў,
За што крывавяць мой прасьцяг,
Ды словы-клічы Лістапада
Мяне вялі кудысь, як сьцяг.

# Галасы удзельнікаў Слуцкага паўстаньня

## Гэтак было...

Рада Случчыны адкінула прапанову генэрала Булак-Балаховіча прыйсьці з сваей арміяй на Случчыну і ўліцца ў шэрагі паўстанцаў.

Армія Балаховіча, адступаючы на захад, здавала зброю палякам на рацэ Лані. Беларусы, ахвіцэры й жаўнеры, якія знаходзіліся ў гэтай арміі, вырашалі далучыцца індывідуальна да Случчакоў.

Ведаючы, што апошнім не хапае зброі, зарганізавалі перабрацьце яе ад балахоўцаў перад ракою Ланьню, каб ськіраваць зараз-жа на Случчыну. Аднача-сова выслалі дэлегацыю ў Слуцак, якая, здаўшы справаздачу Радзе Случчыны, атрымала загад узяць аддзел Случчакоў і шпаркім крокам вяртацца, забраць зброю і зараз-жа прывезьці яе ў Семежава.

*

Ужо Слуцак пакінулі Семяжаўцы — жаўнеры БНР. Засталася толькі частка генэральнага штабу, якая месьцілася ў будынку Кагановіча на Турэмнай вуліцы.

І сюды, яшчэ ў гэтыя апошнія хвіліны, наплывалі з самых далёкіх куткоў Случчыны, і навет Бабруйшчыны, новыя — з кайстрачкамі, у сьвітках, але зь якім жаўнерскім запалам, зь якім глыбокім імкненьнем да змаганьня.

Хуткім тэмпам праводзіцца запіс. За гадзіну выхад.

...Аддзел у 200 чалавек рушыў з Слуцка, калі ўжо зоркі зіхацелі на небе.

Мароз...

«Вольным крокам, наперад!»

Заскрыпеў сьнег.

У першай вёсцы начлег. Пераверка. Раніцай наступнага дня — у паход. Нейкі зарадлівы не забыўся ўзяць баян і пад гукі бадзёрых маршаў пайшлі.

Церазь Семежава. Спатканьне, на паўгадзіны, з галоўнай сілай Случчакоў і Грозаўцаў — і далей.

Гэтае «далей» было Гураў, дзе меліся перабраць зброю.

Без адпачынку йшлі аж да Прыпяці — нейкіх 80 кілямэтраў..

Малы човен мог перавозіць толькі двух.

А дзьве сотні — гэта трывала доўга.

Шопатам: «Зважайце, па вадзе гук ідзе далёка, а дзе чырвоныя, ня ведама. Можа вельмі блізка».

Гэтак, выйшаўшы з пад Слуцка раніцай, толькі раніцай наступнага дня, пасьля стокілямэтровага паходу, увесь аддзел быў на правым беразе Прыпяці.

Першыя бягуны данесьлі, што Гураў ужо заняты чырвонымі. Але даведаліся, што па дарозе на захад знаходзяцца ў ляскох склады зброі й вопраткі, захаваныя для Случчакоў.

Рухнулі ў гэтым напрамку. І запраўды знайшлі ў першым ляску: дзьве трохдзюймоўкі, некалькі кулямётаў, стрэльбы, гранаты й амуніцыю, вопратку й абутак. Але нічога есьці...

Надыходзіць ноч. Мароз цісьне. Запалілі вогнішча і, пасьля 24-ох гадзіннага паходу — намагаліся заснуць, адпачыць. Засыпалі грэючы рукі, сьпіна ледзянела. Грэлі сьпіну, качанелі ногі, рукі й твар.

Над раніцай — алярм. Хутка ўсе бягуць на сваё месца. Як і хто можа зразумець, што аддзел, сфармаваны толькі звычайным запісам у Слуцку 48 гадзін таму назад, пасьля 24-охгадзіннага паходу, ужо меў дысцыпліну й што кажны ведаў сваё месца.

Беларус гэта зразумее.

У гэтым аддзеле былі старыя артылерыстыя, кулямётчыкі, разьведчыкі, бягуны. Кажны зь іх, перад тым, як сесьці каля вагню, абгледзеў «сваю зброю», пераканаўся ў яе спраўнасьці, зрабіў запас амуніцыі «пад рукою» і толькі слова — «Алярм!», «На сваё месца!» — кажны быў пры сваёй зброі.

«Пяхота — у россып каля ляску!»

«Артылерыя — з боку. Дывэрсыйны вагонь на адлегласьць Бягуны — сьцежкаю два кілямэтры наперад!»

Усё адбывалася, як бы гэта было ў самай найвымуштраванейшай арміі.

Дывэрсыйны стрэл быў дадзены.

Бягуны пабеглі.

Пяхота ляжала ў сьнезе.

За гадзіну вяртаюцца бягуны — нічога асаблівага не заўважылі, але небясьпека йдзе. Хутка знаходзяцца фурманкі, коні і ўсе пайшлі далей. Цягнуцца трохдзюймоўкі па цьвёрдым сьнезе, а на санках кулямёты, стрэльбы, амуніцыя, вопратка, абутак. Але ня ў кірунку Случчыны, якім прыйшлі. Шлях ужо быў адрэзаны. Трэба абыходзіць.

Доўгімі палескімі дарогамі дайшлі ўзноў да Прыпяці. Стаяць вялікія плыты. Трэба зрабіць пераправу на другі бок. І гэта было зроблена. Але далей ужо было немагчымым цягнуць трохдзюймоўкі. Іх закапалі на пяшчаным узгорку, а далей пайшлі толькі кулямётчыкі й стральцы. Артылерыя перастала існаваць.

Рознымі сьцежкамі дапялі ўсе да вёскі на «сваім» баку Лані (свой бок — гэта бераг Лані на тэрыторыі Беларускае Народнае Рэспублікі; ня свой — Беларусь акупаваная Польшчай).

Ледзь абселіся, ці йначай адпачылі ў цёмных хатах, як бягуны даносяць:

«Ідзе горда чырвоных!»

Мароз. Ізноў скрыпіць сьнег.

«Усе з хатаў! Кажны на сваё месца!»

Усе выбеглі.

Кулямётчык з максімам узяў правы флянг, кулямётчыкі зь люіса — два слуцкія гімназістыя — левы. Ціха, як перад навальніцай. А мароз цісьне. Раптам засакатаў наш максім. Набліжаюцца. Затарахцеў наш люіс. Надыходзяць, але не страляюць. З правага й левага флянгу йдуць, каб абкружыць і прыціснуць да рэчкі, якая, у плыткіх мясцох, яшчэ не замерзла. Маленькі мост, што злучае «свой» і «ня свой» берагі, высака й гола стаіць. Небясьпечны пераход.

А тут грымнулі з усіх бакоў «іх» кулямёты. Дарэмна наш максім сакочыць. Дарэмна тарахціць люіс.

Не — не дарэмна, адбіваліся ўсе, як маглі. Адбіваліся гімназістыя. Але, з заду, узялі іх у палон — і там, на месцы, каля могілкаў, расстралялі...

Скольκі яшчэ там загінула, ня ведама. Але гэта быў апошні бой гэтага аддзелу Беларускай Арміі.

*

Усе загінуўшыя ўславілі імя беларускага жаўнера, а дзень сьвяткаваньня гадавіны Слуцкага паўстаньня — стаўся днём, як і ў іншых краінах, днём ушанаваньня нязнаных змагароў за волю Беларускага Народу, за Беларускую Народную Рэспубліку.

**Лявон Р.**

## Цыганкоў зьнішчаны

**(Урывак з III-яй часткі раману «Случчына ў вагні»)**

Ня раз здавалася, што Алесю ня вырвацца зь зялезнага кола з усіх бакоў сьцягнутых карных аддзелаў. Адчайна адбіваліся юнакі, ды няроўныя былі сілы. І вораг трубіў аб перамозе: «Юнакоў няма, іх аддзел зьнішчаны».

Ды ня гэтак было ў запраўднасьці. Рассыпаўшыся на сваіх шыбкіх коніках, яны хутка зьнікалі ў суседніх кусьціках. Імчаліся за імі ўсьлед карнікі, аточвалі вёскі, кідаліся ад хаты да хаты, ад хлява да хлява, ды ўсё надарма. Нідзе ні душы. Калі й сустрэнецца які-небудзь вясковы хлопец, дык і той сьпяшаецца з плугам або бараною на поле. На запытаньне, ці ня бачыў, дзе схаваліся «бандыты», ён толькі пацісьне плячыма: «Нідзе нікога ня бачыў», і едзе сваею дарогаю далей. А празь якое паўгадзіны ад маладых аратых навет сьлед прастыў. Дарма было іх даганяць. Дарма шукаць па хмызьняках, лясістых непралазных нетрах. Усюды ціха. Канулі, быццам, у ваду. Як толькі-ж чырвоны полк спыняўся на адпачынак, зноў, як зь зямлі, выскаквалі партызаны, пачыналася страляніна, і адпачынак быў сапсуты.

Нарэшце, для зьнішчэньня партызанаў, быў накіраваны спэцыяльны, услаўлены сваею дзікасьцю, аддзел Цыганкова. Агнём і крывёю зазначаў ён свой сьлед па Случчыне. Ні аднае хаты не прамінуў Цыганкоў, каб не абрабаваць, ні аднае сям'і не пакінуў, каб не назьдзекавацца. Без разбору гвалціў жанчын і дзяўчат, катаваў мужчын, расстрэльваў дзяцей. Дымелі спаленыя сялібы, енкі й праклёны нясьліся яму ўсьлед. Ня было таго дня, каб ня прыбягалі да Хведара з тае ці іншае вёскі пасланцы, просячы як найхутчэйшага паратунку. Ды й сам Хведар, праяжджаючы сяньня цераз адзін хутар, сваімі ўласнымі вачыма бачыў жудасныя, пакалечаныя Цыганковам, трупы жанчын і дзяцей.

— Больш цярпець немагчыма, — вырвалася ў яго. — Сьмерць крывапіўцу!

І ня гледзячы на вялікую няроўнасьць у сілах, Хведар вырашыў даць канчатковы бой.

— Ці мы, ці яны! Ганьба нам бачыць гэткія зьдзекі.

І рушыў за Цыганковам. Цыганкоў у гэты час, ня маючы ні на хвіліну супакою, лётаў па хмызьняках, лагчынах, гаі, ганяючыся за юнакамі. Тыя панаджваліся зь ім, як кот з мышшу, даводзячы яго да вар'яцтва. Нарэшце, моцна стомлены, лазячы па купніку, лазе па пояс у балоце, аддзел Цыганкова спыніўся. А гэтага толькі й чакаў Хведар. Ува ўсе канцы паскакалі пасланцы, паведамляючы суседнія партызанцкія аддзелы.

Певень прапеў поўнач. Заварушыліся навакольныя вёскі, ашчэрыліся народнымі мсьціцелямі, у разьведку выехаў сам Хведар. Ён высунуўся далёка наперад і дасканала азнаёміўся з усімі — і дадатнімі й адмоўнымі ўмовамі нападу й абароны.

*

Панавала цішыня. Змораныя нялюдзкімі паходамі карнікі моцна спалі. Дзеня-дзе паблісквалі агеньчыкі вартавых, якія, каб не заснуць, грэліся махоркаю. Ня спаў толькі адзін Цыганкоў. Пахмуры сядзеў ён за сталом. Перад ім сьвечка і разгорнутая карта. Смутныя думкі апанавалі яго, не даюць супакою. Дзесяты дзень ужо, як ён безь пярэрвы ганяецца за юнакамі. Дзесяты дзень ужо, як ён колькі разоў насьцігаў маладых змагароў, колькі разоў атачаў іх з усіх бакоў, у няспрыяльных умовах распачынаў бітву, нарэшце, захопліваў вёску, заўчасна радаваўся перамозе, мроіў аб цяжкіх, жорстка-садыстычных карах, ажно... ад партызанаў і сьлед прастыў. Нібы скрозь зямлю праваліліся. Цыганкоў вар'яцеў ды нічога ня мог зрабіць. Дзесяць дзён нячуваных пераходаў, нарэшце, гэтак змарыла людзей і коняў, што Цыганкоў мусіў даць сутачны адпачынак. Аб блізкім суседзтве з партызанамі, якія павінны былі баяцца яго, як агню, і ў думцы ня было. Не заўважыў Цыганкоў і таго, як па абедзе выяжджалі на поле з плугамі й баронамі жанчыны, а позна ўвечары варочаліся з поля мужчыны. Не заўважыў ён і запасочанай у суседніх вёсках зламыснай цішыні. Ні разу ня рыпнулі вароты, ні разу не брахнуў сабака. Прывязаныя ў каморах, добра накормленыя, яны спакойна адпачывалі. Нішкам наблізіліся партызанцкія аддзелы й спыніліся на пагатове.

Толькі а 2-ой гадзіне па поўначы вярнуўся Хведар назад і загадаў:

— Зьнішчыць карны аддзел Цыганкова!

Паўстанцы з усіх бакоў атачылі вёску. Моцны аддзел партызанаў пад кіраўніцтвам Андрэя прадзіраўся хмызьняком і мусіў першы накінуцца на ворага. Гэта будзе сыгнал дзеля агульнае атакі. Толькі Алесь із сваімі юнакамі, заняўшы лагчыну, мусіў заставацца там. У яго заданьне ўваходзіла сьцігаваць і абяззбройваць ужо разьбітага ворага. Юнакі гэтым былі надта незадаволеныя.

— Дакуль нас будуць лічыць за дзяцей? — гарачыліся яны, але, падпарадкоўваючыся агульнай дысцыпліне, толькі пазіралі, як іхныя бацькі, хто кустамі, хто лагчынаю, аддзел за аддзелам зьнікалі ў цемры, дзе й займалі свой выходны, вызначаны для нападу, стан.

Роўна а 3-яй гадзіне засакаталі кулямёты, забахалі абразанкі і гучнае гу-у-у-р-р-р-а-а-а-а! разарвала паветра. Сонныя, да сьмерці пераляканыя чакістыя выскаквалі босыя, у вадных нагавіцах і, не разумеючы ў чым справа, зьбянтэжана стралялі хто ўгару, а хто куды папала, яшчэ больш павялічваючы паніку. Крык, стогны, ружэйная траскатня, мацярыная лаянка перамяшаліся ў нявыразны лямант. Тварылася штосьці страхатлівае, не раўнуючы, як у пякельным царстве.

Пачынала днець. Куды ня кідаліся чакістыя, усюды іх сустракала або куля, або штых, або проста які-нябудзь ражон.

— А мы?... нудзіліся юнакі. — У кіно прыйшлі, ці куды?

Нарэшце, калі ўсякае цярпеньне гатова было лопнуць, Міколка зь Ціхонам, якія стаялі на варце і ня зводзілі зь вёскі вачэй, падалі сыгнал.

— Коньніца!

— Коньніца! Яны хочуць зьнішчыць аддзел Кастуся, — выгукнуў Ілюк. (Кастусёўцы — гэта былі юнакі суседняга партызанцкага аддзелу, якія гэтак сама, як і Алесяўцы, рабілі шмат клопату чырвоным маскалём).

— За мною, гу-у-р-р-а-а! — выгукнуў Алесь і выскачыў наперад. Юнакі, выхапіўшы шаблі, трохі адпусьцілі павады, і заўжды палкія да авантураў, гарачыя ў бойках, з голасным крыкам гу-у-р-р-а-а! — стрымгалоў памчаліся напярэсьцікі ворагу. Аддзел Кастуся таксама імчыцца насустрач чакістым. Ад нечаканасьці ў варожых радох замяшаньне.

— Гу-у-р-р-а-а! — Кастусёўцы!

— Гу-у-р-р-а-а! — Алесяўцы!

Коні й людзі зьмяшаліся ў кучу. Лязганьне зброі, стогны раненых, праклёны й лаянка ськінутых з коней агаласілі паветра. Чакістыя, палова якіх ужо ляжала на зямлі, убачыўшы перад сабою гібель, крутанулі назад. Але й там ім ратунку ня было. Насустрач ім высунуўся аддзел Хведара. Рассыпаўшыся па-аднаму, чакістыя ймчацца, хто куды. Распаленыя перамогаю юнакі, сьцігаюць усьлед, даконваючы бязьлітаснага ворага. Некаторыя з чакістых здаюцца. Абяззброеных палонных хлопцы вядуць перад сабою.

Вось і Лясішчы.

— «Мы выйдзем шчыльнымі радамі!...» — зацягнуў звонкім тэнарам Ілюк, і панесьліся ў прастор, дружна падхопленыя, пераможныя гукі ваяцкага маршу.

— Дзеці, яшчэ зусім дзеці, а ў бойцы, як дарослыя, — перашэптваліся жанчыны, змахваючы з воч расінкі.

— З такімі край не загіне, — гаманілі старыя, з павагай пазіраючы на юнакоў.

Дзікі аддзел Цыганкова быў зьнішчаны.

**Алесь Змагар**

## Каб жыла Бацькаўшчына

(Заканчэньне)

**завірухі, Слуцкае паўстаньне, як і ўсе іншыя збройныя чыны беларускага народу таго часу, набіраюць для нас яшчэ большага й асаблівага значэньня. Слуцкае паўстаньне ўмацоўвае нас у веры ў наш народ — у ягоную нязьнішчальную нацыянальную сілу і ў ягоную непахісную волю быць вольным і незалежным. Бо тыя ідэі, якія ў ім прабудзіліся ў працэсе нашага нацыянальнага адраджэньня, замацаваліся й загартаваліся ў працэсе вызвольных змаганьняў і павялі яго на збройныя чыны ў вабароне вольнасьці й незалежнасьці сваей Бацькаўшчыны, зьяўляюцца ідэямі няўміручымі. За гэтыя ідэі найлепшыя сыны беларускага народу злажылі свае галовы ў энкавэдоўскіх падвалах, за гэтыя ідэі мільённыя масы беларускага народу ішлі на выгнаньне — у Сібір і халодную Поўнач, гэтыя ідэі ў глыбіні душы сваей перахоўвае народ наш і сяньня ў часы найцяжэйшых для яго выпрабаваньняў.**

**Гэтымі ідэямі жывём сяньня й мы — беларускія эмігранты. Мы зьяўляемся сьвядомымі таго, што мала толькі вызнаваць тую ці іншую ідэю, але што трэба за яе змагацца. Бо толькі тая ідэя зьяўляецца ўзапраўды вялікай і няўміручай, якая ёсьць акупленая крывёю найлепшых ейных змагароў. І толькі такая ідэя можа быць поўнасьцю дасягнутая, за якую людзі гатовыя аддаць жыцьцё сваё. Дык і мы сяньня, пачуваючыся да сьвятога абавязку служыць нашай вялікай нацыянальна-вызвольнай ідэі, будзьма гатовымі для яе ня толькі жыць, але й памерці, будзьма гатовымі, за прыкладам Слуцкіх гэрояў, «пайсьці паміраць, каб жыла Бацькаўшчына!»**

**Язэп Каранеўскі**

## Слуцкі фронт Беларускай Народнай Рэспублікі

**(Заканчэньне)**

сама ў бальшавіцкіх гісторыкаў з БССР і прыпаміну аб умове Гомельскага Рэўкома ў 1918 г. зь немцамі, паводля якое:

«Гомельскі Нямецкі Камітэт забавязываецца прадаць савецкаму ўраду: 12 палявых гаўбіцаў, 6 баявых гарматаў з адным артылерыйскім паркам, 50 кулямётаў, 16 мінамётаў, 400 вінтовак, каля 4.000.000 нямецкіх патронаў, 500.000 ангельскіх патронаў, 12 тысяч артылерыйскіх знарадаў».

Не дапамагла Гомельскаму Рэўкому зброя нямецкіх акупантаў. Менш чым праз год — у вясну 1919 г. гомельскія паўстанцы зьнішчылі гэты рэўком. Аднак прыгаданыя намі факты красамоўна сьветчаць аб «прынцыповасьці бальшавіцкіх «судзьдзяў» слуцкіх паўстанцаў.

Як вядома адносіны бальшавікоў, або чырвоных расейцаў да беларускага вызвольнага руху істотна ня розьняцца ад адносінаў да яго з боку белых расейцаў. Калі паводля сьцьверджаньняў першых, антыбальшавіцкія паўстаньні на Беларусі зьяўляліся «дывэрсыяй імпэрыялістычных дзяржаваў», дык, паводля сьцьверджаньняў другіх, гэтыя паўстаньні раздушылі самыя-ж беларусы. Прынамсі, што датычыць уласьне Слуцкага паўстаньня, дык яны прабуюць спасылацца на тое, што нібы яго раздушыў 3 Менскі полк Губчакі, які быццам складаўся вылучна зь беларусаў. Мэта такіх доказаў больш чым відавочная і зразумелая, а менавіта давесьці, што Кастрычнік на Беларусі зроблены беларусамі-ж, а зусім не накінуты ім «старэйшым расейскім братам» і ягонай вернаадданай інтэрнацыянальнай зграяй, а таксама, каб давесьці, што Беларусь зусім не зьяўляецца адным зь першых па часе сатэлітаў акупаваных Масквой і дабраахвотна далучылася да яе. Прыемна зазначыць, што гэтыя варожыя беларускаму вызвольнаму руху сьцьверджаньні ня вытрымліваюць ніякае навуковые крытыкі.

Папершае, нават савецкі гістарычны дасьледнік С. Агурскі ў сваёй капітальнай працы з характэрным загалоўкам «Кастрычнік на Беларусі» (Менск, 1927 г. Прадмова, стар. Х) — шчыра зазначыў: «...бальшавіцкія кіраўнікі Кастрычніцкае Рэвалюцыі былі чужымі ў нашай краіне». Агульнавядомая роля Фрунзэ і Мясьнікава ў Менску і Смаленску, але варта такасама прыгадаць пэрсанальны склад хаця-б Віцебскага Рэўкому, у які ўваходзілі: В. Чунчын, Шалконц, Заўэр, Дырык, Аболін, Трэйман, Відзе, Рэкст, Біштэ, Петэрсон, Дрызль, Лепін і Фрышман (С. Агурскі-Кастрычнік на Беларусі. Стар. 70). Падругое, ні адзін з былых непасрэдных удзельнікаў Слуцкага паўстаньня ніколі ня чуў пра нейкі мітычны 3 Менскі полк Губчакі, як ня прыгадваецца ён таксама ў літаратуры і дакумантах. Патрэйцяе, беларускія вайсковыя мабілізаваныя саветамі часткі ў часе паўстаньняў на Беларусі або захоўвалі прыязны нэўтралітэт да паўстанцаў, або адразу пераходзілі на іхні бок, або першымі падымалі паўстаньне. Гэтак Слуцкі Задзіночаны Батальлён 1—4 красавіка 1919 г. узьняў сьцяг паўстаньня ў Міры. У сакавіку 1919 г. у Рагачове паўстаў 20 пагранічны полк, што складаўся з адных беларусаў, і забіў свайго камісара Цымермана. Празь месяц у тым-жа Рагачове паўстаў 2 Беларускі Палескі Полк. У часе Гомельскага паўстаньня, у сакавіку 1919 г., тутэйшы батальлён адмовіўся абараняць Рэўком. У тым-жа месяцы ў Рэчыцы тутэйшая рота перашла на бок паўстанцаў. У часе Барысаўскага паўстаньня 1919 г. тутэйшы батальлён перайшоў на бок паўстанцаў. У 1920 г. Глуская рота адмовілася змагацца з случчакамі. Магчыма гэтых прыкладаў хопіць, хаця лік іх можна значна павялічыць. Пачацьвертае, няма ніякіх важкіх гістарычных дадзеных, што тагачаснае чало беларусаў камуністых кіравала змаганьнем зь беларускімі паўстанцамі. Масква ніколі не давярала гэтаму беларускаму чалу, якое заўсёды ачольваў, заўмаючы найгалоўную ў савецкай герархіі пасаду — сакратара ЦК КП(б)Б — прызначаны ёю чужынец. І між іншым, як характэрна, што адзін з гэтых сакратароў, а менавіта эстонец Гэй (1929—1932 г. г.), перад якім ягонае мейсца займалі пасьлядоўна — паляк, латыш, расеяц і жыд, неяк шчыра заўважыў: «Ігнатоўскія, Прышчэпавы, Жылуновічы і інш. — нацдэмы з партбілетамі ў кішэнях».

Усялякія дагэтуляшнія спробы нашых ворагаў падважыць ролю Слуцкага паўстаньня ў беларускім вызвольным змаганьні заставаліся жалю годнымі. Як нельга пагасіць зоры-альфы — Вэгу і Альдэбаран, гэтак нельга выкрэсьліць з памяці нашага народу Слуцкае паўстаньне. Дый ці паўстаньне яно ўвогуле? Нават, паводля варожага нам савецкага правазнаўства, яно гэткім не зьяўляецца, бо на бальшавіцкі пагляд: «Паўстаньне ёсьць масавая адмова ад падпарадкаваньня органам улады і законам, што дзеяць у дзяржаве і замах на зьмену дзяржаўнага ладу» (Малая Советская Энциклопедия. Масква. 1931 г. Стар. 291/92). Слуцкая эпапэя мае ўрад — Раду Беларускае Народнае Рэспублікі, тутэйшага прадстаўніка цэнтральнага ўраду — камісара Рады БНР Паўла Жаўрыда, і паслухмянае дырэктывам ураду вайсковае падразьдзяленьне — Першую Беларускую Слуцкую Дывізію, што трымала фронт працягам у 100 кілёмэтраў. Знаходзячыся ў той час, ужываючы вайсковы тэрмін, на «нічыйёй зямлі», случчакі ўжо тым самым аніяк не маглі паўстаць супраць расейскага, польскага, нямецкага, або якога-небудзь іншага ўраду. Яны, абараняючы сваю зямлю — Беларусь і ейны ўрад — Раду БНР, сустрэлі із зброяй у руках вонкавы «замах на зьмену дзяржаўнага ладу» ў іхняй краіне. Таму больш абгрунтаваным у навуковых адносінах і адпаведным праўдзе будзе ня былое вызначэньне — Слуцкае паўстаньне — а — Слуцкі Фронт БНР. І як характэрна, што адным з самаадданых шарагоўцаў гэтага славутага Фронту быў паэта Макар Краўцоў — аўтар беларускага нацыянальнага гымну, які загартаваўся тут у баявым агні і канчаецца палкім заклікам:

«Браты, да шчасьця мы падходзім,
Хай гром грыміць яшчэ мацней.
Ў крывавых муках мы народзім
Жыцьцё рэспублікі сваей».

**Юрка Віцьбіч**

## Вадародная бомба

Неафіцыйныя прэсавыя паведамленьні аб выпрабаваньні амэрыканцамі вадародна-атамнай бомбы афіцыяльна пацьвердзіліся. 16 лістапада сёлета амэрыканская камісыя атамнай энэргіі паведаміла пра пасьпяховае заканчэньне трэйцяй сэрыі выпрабаваньняў гэтай новай зброі на Ціхаакіянскім востраве Энівэток у групе Маршальскіх астравоў. У рамах гэтых досьледаў, якія былі праведзеныя супольна міністэрствам абароны й камісыяй атамнай энэргіі, былі праведзеныя экспэрымэнты, што прыслужыліся да разьвіцьця вадароднай бомбы.

Тэкст афіцыяльнага паведамленьня камісыі атамнай энэргіі зьяўляецца наступны:

(Заканчэньне на 5 балоне)

Г. А. ТАКАЕЎ

# Некаторыя пытаньні рэвалюцыйнай дэмакрацыі

(Працяг)

### ШТО ТАКОЕ «САЮЗ»?

Звычайна, крымлёўскай імпэрыялістычнай алігархіі хацелася-б, каб яе працўнікі й далей званілі пра «Расею», — у такім выпадку іх можна было-б абвінавачваць у імкненьні да тэй ці іншай формы рэстаўрацыі дарэвалюцыйных парадкаў, у змове на нацыянальную годнасьць усіх народаў СССР, а гэта дазволіла-б задзіночыць гэныя народы навакол палітбюра, таму, што ніводная з нацыяў і аўтаномных акругаў СССР ужо не пагодзіцца на страту сваіх дзяржаўна-палітычных рэспубліканскіх і аўтаномных установаў.

Разам з тым рэвалюцыйныя дэмакраты не забываюцца падчыркнуць, што кажнае з чатырох словаў назвы краіны СССР вымагае сур'ёзных паясьненьняў. Яны, як пераканаmake прыхільнікі брацкага, раўнапраўнага й дабравольнага сужыцьця **вольных** народаў, выступаюць ня супраць Саюзу, а толькі супраць «Саюзу», між якімі бачаць вялікую розьніцу. Саюз бяз двукосьсяў абазначае дружную згоду й дабравольнае задзіночаньне (асоб, арганізацыяў, дзяржаваў і г. д.) зь якойсь супольнай мэтай, якая недасяжна кажнаму паасобку, а «Саюз», як паказаў савецкі прыклад, сымбалізуе прымус на нераўнапраўнай аснове. Узапраўды, якомусьці ідыёту магло-б прыйсьці ў галаву, што, прыкладам, Эстонія, Латвія й Летува ўвайшлі ў СССР дабравольна! Хто, апрача непапраўных шавіністых, можа цьвердзіць, што Грузія ўвайшла ў СССР сама, без дапамогі пастаронньіх штыхоў?

Вось чаму мы гаворым апанэнтам, што, калі-б СССР прадстаўляў сабой дабравольны саюз раўнапраўных народаў, як было прадбачана ў спачатных вэрбавальных праграмах бальшавізму, рэвалюцыйныя дэмакраты былі-б ягонымі пасьлядоўнымі абароньнікамі, але цяперашні стан рэчаў захаваў толькі **юрыдычную** форму, пад якой расьцьвітае прымара контррэвалюцыйна-імпэрыялістычнага прымусу паняволеньня. Вось-жа, заданьне палягае ня ў тым, каб вярнуцца да дарэвалюцыйных губэрняў і акругаў, каб парэзаць саюзныя рэспублікі, **юрыдычна** сфармаваныя ў дзяржавы, на дробныя акругі Расеі, а ў тым, каб выпаўняць прыгожую юрыдычную форму такім-жа прыгожым фактычным зьместам. Аднака-ж цяпер, на фоне здабытай практыкі, пад аднэй неадменнай умовай: спачатку — свабода, а толькі потым — саюзы, фэдэрацыі. Ні ў якім выпадку не наадварот, бо ў праціўным выпадку лёгка патрапіць у такт сталінскага бальцавізму. Гэтаму навучыў нас сталінізм. У гэтым пераканаў нас ленінізм.

### САВЕЦКІ І «САВЕЦКІ»

Тое самае трэба сказаць пра слова «савецкіх». Яно паходзіць ад «савет», «саветаваньне», «саветавацца», «пасаветаваць» (пабеларуску — «рада», «радзіцца», «парадзіцца» — Рэд.), значыцца гэтае слова па сваей прыродзе поўнае дэмакратычнага зьместу й годнае найвышэйшае пашаны. Ня будзь у ім такога зьместу, натоўпы работніцкай клясы Петраграду, Масквы й Іванава-Вазьнясенска ледзьве ці так хутка падняліся-б на штурм царызму, бо рэвалюцыя масаў рэдка ўспыхае бяз ясных, зразумелых лёзунгаў, што найкарацейшым шляхам высказваюць карэнныя інтарэсы, ідэі, разуменьні й тэрміны, падгатаваныя самым жыцьцём.

Спачатку прыпускалася, што Саветы бяз двукосьсяў, як арганізацыйная форма дэмакрацыі будуць пэрсаніфікацыяй удзелу масаў ў кіраваньні дзяржавай і адсутнасьці аўтакратычнай ці алігархічнай дыктатуры, таму зусім прыродна, што ніколі і ні адзін хоць трохі салідны апазыцыйны дзеяч не дазваляў сабе ўтажсамліваць сваё антысталінскае змаганьне із змаганьнем супраць Саветаў бяз двукосьсяў. Але цяпер няма ўжо ніякіх Саветаў, — ёсьць толькі «Саветы», як тупое аружжа выконваньня бюракратычнай волі партыйнай алігархіі, як узаконеная форма абману народных масаў, як глыбока прыніжаючая для ўзапраўды дэмакратычных Саветаў, рэакцыйна-фармалістычная выеска над панурым фактычным зьместам, як контррэвалюцыйная фасада на калісьці рэвалюцыйным будынку. Няма нічога брыдчэйшага, як трыумфальная фарызэйская камэдыя Вярхоўнага Савету й Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету, што надзеленыя найвышэйшымі канстытуцыйнымі паўнамоцтвамі, але ня маюць ніякай **самастойнай** улады.

Ці ня ясна, што даводзіцца праводзіць выразную мяжу між Саветамі й «Севетамі»? Ці ня ясна, што сталінцы, абвінавачваючы сваіх супрацоўнікаў у намеры «зарэзаць» Саветаў, намагаюцца ўратаваць сваіх «Саветаў» і прыдбаць «маральнае права» да залічэньня антысталінцаў да раду рэакцыянэраў, антыдэмакратаў і контррэвалюцыянэраў? Нарэшце, ці ня ясна, што безашчаднае змаганьне супраць сталінскіх «Саветаў» такое-ж патрэбнае й справядлівае, як патрэбнае й справядлівае было-б змаганьне за захаваньне запраўдных Саветаў, **калі-б** яны існавалі?

### САЦЫЯЛІСТЫЧНЫХ І «САЦЫЯЛІСТЫЧНЫХ»

Можна быць, далей, прыхільнікам ці ворагам сацыялістычнай ідэалёгіі, але гэта яшчэ не дае права сур'ёзна запярэчваць ідэялістычны й людзкі дух запраўдных сацыялістычных канцэпцыяў розных часоў і дзеячоў гісторыі, ад рэлігійных да матарыялістычных, ад утапійных да ляйбарыстаўскіх. У кажным выпадку нікому ня дадзена «скасаваць» таго факту, што ідэялістычная спачатная зарысоўка дэмакратычнага сацыялізму даўно выклікала сымпатыі шырокіх масаў працоўных усяго сьвету й напаўняла сэрцы мільёнаў надзеямі на магчымасьць прыходу сацыяльнай і нацыянальнай справядлівасьці, — так было ў Расеі да 1917 году.

Але няўмольная лёгіка рэальнага жыцьця давяла, канец канцом, што ўсе спачатныя вэрбавальныя ідэалы кастрычніцкай рэвалюцыі вывернены навыварат, што затрыумфавалі каставаалігархічная дыктатура і дзяржаўна-манапалістычны імпэрыялізм, што вынікла клясычная антысацыялістычная фармацыя зь няведамымі навет для капіталізму сацыяльнымі й нацыянальнымі кантрастамі. Найважнейшае ў усякай сацыялістычнай дэмакрацыі, **свабода**, аказалася задушанай у зародку, заколенай чырвонаармейскім штыхом і застрэленай чэкістаўскім пісталетам. Калі народы расейскай імпэрыі пакладалі некалі пэўныя надзеі на будучую роўнасьць, то цяпер народы Савецкага Саюзу штодзённа адчуваюць на сваіх собскіх сьпінах усю гаму супрацьлежных рэзультатаў дзікага сацыяльнага й нацыянальнага градаваньня грамадзтва.

І яны змушаныя ўзноў брацца за зброю, але зусім ня супраць ідэалаў і ідэалёгіі запраўднага дэмакратычнага сацыялізму, а толькі супраць сталінскага «сацыялізму». Значыць, змаганьне рэвалюцыйных дэмакратаў ня мае нічога супольнага із змаганьнем супраць сацыял-дэмакрацыі. Рэвалюцыйныя дэмакраты — суседзі запраўдных дэмакратычных сацыялістаў заходняга тыпу.

### РЭСПУБЛІКА І «РЭСПУБЛІКА»

Манархіяй называецца форма кіраваньня і дзяржава на чале з манархам-кіраўніком. Яшчэ ў часы старадаўняга Рыму гэтую назву сымбалізаваў вярхоўны начальнік усіх войскаў, **імпэратар** (хоць ён, здаецца, і ня быў манархам у поўным разуменьні гэтага слова), адпаведна з чым падлеглая яму дзяржава насіла імя «імпэрыя». Ад гэтага, шляхам ігры слоў, **імпэрыялізм**, што з часам стаў абазначаць, наагул кажучы, **палітыку**, сьціраваную на стварэньне вялікай цэнтралізаванай дзяржавы зь вялікай колькасьцю нацыяў і народаў.

Імпэрыялізмы розных часоў і краінаў многа чым розьніліся, але мелі й сёетое супольнага, як, прыкладам, імкненьне да расшырэньня й цэнтралізацыі, расістаўскія тэндэнцыі й гэтак далей.

На думку Арыстотэля, ёсьць толькі тры формы кіраваньня — манархія (сюды, звычайна, адносіцца й царызм), арыстакрацыя й паліцыя, што выраджаюцца ў тыранію, алігархію й дэмакрацыю, пры чым, на думку філёзафа Вольфа, перавагай манархіі трэба ўважаць яе здольнасьць да шыбкіх пастановаў, але калі вяльможы манархіі й арыстакрацыі паразумеюцца між сабой паводля прынцыпу «гава гаве ня вораг», то наступае бяда для народных масаў. У дэмакрацыі гэтага ня можа стацца хоць бы таму, што яна ёсьць упраўленьнем **«усіх цераз усіх» і «для ўсіх»** паводля прынцыпу падпарадкаваньня асабістых інтарэсаў грамадзкім.

Трохі больш сурова высказваецца Батнам, які сьцьвярджае, што манархія XVIII і XIX стагодзьдзяў ёсьць нішто іншае, як рабаўласьнік у шырокіх разьмерах і архіпрыгнятальнік, архіабманшчык, архіраспусьнік і архіэксплятататар, якога аружжа панаваньня складаецца зь віцэнасільнікаў, віцэабманшчыкаў, віцэраспусьнікаў, віцэтэрарыстых і віцээксплятататараў, якія зьяўляюцца годнымі свайго найвышэйшага аўтакрата.

Рэспубліка й рэспубліканізм абазначаюць, наадварот, форму дэмакратычнага кіраваньня, пры якой найвышэйшая ўлада (прэзыдэнт, парлямант) выбіраецца цераз некаторыя адрэзкі часу й забавязана даваць справаздачу перад выбіральнікамі, народнымі масамі, значыцца, рэспубліка й дэмакрацыя арганічна адзіныя й непадзельныя.

Які з гэтых рэжымаў існуе ў СССР? Фармальна — апошні, а фактычна — другі разам зь першым. Сталін, звычайна, не ўважаецца афіцыйна ні манархам, ні імпэратарам, ні царом, ні іншым аўтакратам, але ў запраўднасьці ў сьвеце ня было й няма самадзяржаўцы абсалютнейшага й бескантральнейшага. Узапраўды яго з поўным правам можна назваць архібогам сярод зямных багоў, архірабаўласьнікам, архітыранам, архіімпэратарам, архіцаром, архіраспусьнікам, архіэксплятататарам і архіабманшчыкам. Сучасныя заходнія каралі пануюць, але ня кіруюць, а Сталін і пануе і кіруе, дый яшчэ як!

Вось чаму рэвалюцыйныя дэмакраты, падыймаючы сьцяг змаганьня, ня хочаць пакінуць ніякага сумліву, што праводзяць выразную мяжу падзелу паміж рэспублікай і «рэспублікай». Яны, як адданыя слугі дэмакрацыі, ня толькі не падносяць рукі на высокія прынцыпы рэспубліканізму бяз двукосьсяў, а наадварот, гатовыя бараніць іх усімі даступнымі ім і маральна дазволенымі сродкамі. Астрыё іхнай палітычнай зброі сьціраванае супраць фальсыфікаванай «рэспублікі» сталінізму й гітлерызму, супраць звульгарызаваных квазідэмакратычных «прынцыпаў», супраць няўдала завуаляванага «рэспубліканізму» крамлёўскіх цароў і алігархаў, што прыкрываюць сваю звыраднелую ганьбу рэвалюцыйнай фразэалёгіяй. Значыцца, рэвалюцыйныя дэмакраты мусяць даваць рашучы адбой кажнаму паклёпніку й правакатару, што ўтожсамлівае іхны рух зь дзейнасьцю супраць рэспублікі, бо яе, рэспублікі, у запраўдным разуменьні слова, у СССР няма, значыцца, страляючы ў ваўка, цяжка забіць аляня.

(Заканчэньне будзе)

Г. А. Такаеў

# Вадародная бомба

(Прадаўжэньне)

«Сфармаванае з часьцін трох родаў зброі адзінка № 132, што дзеіла па даручэньню амэрыканскага міністэрства абароны й амэрыканскай камісыі атамнай энэргіі, закончыла трэйцюю сэрыю досьледаў, зьвязаных з разьвіцьцём новае зброі. Досьледы адбываліся на востраве Энівэток, што належыць да групы Маршальскіх астравоў. Таксама, як і сэрыя досьледаў «Вандроўны будынак» 1951 году, апошнія досьледы былі павязаныя з разьвіцьцём розных тыпаў зброі. Выконваючы распараджэньне амэрыканскага прэзыдэнта з 31 студзеня 1950 году, сэрыя досьледаў была закончаная экспэрымэнтамі ў дзялянцы тэрмонюклеарнай зброі.

Навукоўцы, якім было даручана правесьці досьледы, высказалі сваё задаваленьне з вынікаў працы. Кіруючыя асобы, сябры вайсковых і цывільных аддзелаў спэцыяльнай адзінкі бліскуча правялі плянаваньне, правядзеньне досьледаў, дасягнулі вялікага пасьпеху й атрымалі прызнаньне з боку амэрыканскага міністэрства абароны й камісыі атамнай энэргіі.

З гледзішча на загрозу сусьветнаму міру і ў выніку браку дзейных і практычна выконваных пагадненьняў што да кантролі збраеньняў, ЗША вымушаныя й надалей весьці дасьледавальную працу для разьвіцьця гэтых вялізарных жаролаў энэргіі, што зьяўляецца сьціраванай на абарону вольнага сьвету. Адначасна амэрыканскі ўрад зь вялікім і што раз большым пасьпехам праводзіць досьледы, якія маюць на мэце выкарыстаньне гэтых жаролаў энэргіі для прадуктыўных мэтаў на службе ўсяго чалавецтва».

Як падае шматлікая прэса, розныя спэцыялістыя аднагодна ўважаюць, што выбуховая сіла вадародна-атамнай бомбы зьяўляецца ў некалькі сот разоў большая за выбуховую сілу звычайнай атамнай бомбы. Ей можна зьнішчыць ужо ня толькі горад, але цэлую правінцыю або навет невялікі край. Калі першая атамная бомба, сьцінутая на японскі горад Гірошыма, зьнішчыла толькі часьць гэтага гораду, дык першая вадародна-атамная бомба, сьцінутая на скалісты востраў Энівэток, мела зьмесьці яго зусім з паверхні зямлі.

Факт выпрадукаваньня Амэрыкай вадародна-атамнай бомбы дае ей вялізарную перавагу над Савецкім Саюзам, такую, як у 1945 г. атамная бомба, а можа яшчэ й большую. Як гэтую сваю перавагу захоча Амэрыка выкарыстаць, пакажа будучыня.

**Тона камуністычнай літаратуры дзённа.** Паводля падлічэньня нямецкай саюзнай пошты, прыходзіць дзённа звыш 50.000 пісьмаў з савецкай зоны Нямеччыны ў Заходнюю Нямеччыну з камуністычнай прапагандовай літаратурай. Вага гэтых пісьмаў у сярэднім перавышае адну тону.

Р. СКЛЮТ

5

# «НОВАЯ ЗЯМЛЯ» ЯКУБА КОЛАСА

### (ДА ЭМІГРАЦЫЙНАГА ВЫДАНЬНЯ ПАЭМЫ)

(Заканчэньне)

Таксама зусім у роўніцы нашаніўства «Новая Зямля» й стылёвай плюралістычнасьцяй свае мастацкае культуры. Рэч у тым, што з нашаніўскага-адраджэнцкага ўстановішча «мець усё, што ў людзей», выплывала імкненьне й мець у літаратуры ўсе тыя мастацкія стылі, плыні, кірункі, што былі ў літаратуры гэных «людзей», але ў беларусаў яшчэ ня выявіліся. Максім Багдановіч першы адзначыў гэта, падсумоўваючы шляхі нашаніўскае паэзыі яшчэ ў 1915 г.: «За 8—9 год свайго праўдзівага існаваньня наша паэзыя прайшла ўсе шляхі, а па часьці й сьцежкі, каторыя паэзыя эўрапэйская пратоптвала болей сту год. З нашых вершаў можна было-б лёгка зрабіць кароткі паўторны курс» эўрапэйскіх пісьменьніцкіх напрамкаў апошняга веку. Сантымэнталізм, рамантызм, рэалізм, і натуралізм, урэсьце, мадэрнізм, — усё гэтае, іншы раз навет у іх розных кірунках, адбіла наша паэзыя — праўда, найчасьцей бегла, няпоўна, але ўсё-ж такі адбіла». Гэткі «паўторны курс» няцяжка бачыць і ў «Новай Зямлі» нат у яшчэ шырэйшым за вызначаным Багдановічам абсягу, бо аж куды далей за адзін «апошні век». І акад. Замоцін добра падгледзеў у творы «сваеасаблівую амальгаму старога, амаль народнага эпічнага складу з навейшымі дасягненьнямі мастацкага рэальнага стылю, пераходзячага іншы раз у стыль сымбалізму», засьцярагаючыся пры тым, што гэта, аднак, «ня твор літаратурнага народніцтва, не перайманьне старажытнай эпіцы й не сымбалістычная мадэрнізацыя народна-паэтычнага слова», а «іменна беларуская мастацкая літаратура мамэнту, выявіўшая ў паэме Я. Коласа свой запраўдны арыгінальны твар». Праф. Вазьнясенскі, з другога боку, знайшоў у паэме і «плястычна-адчувальны натуралізм» і эмацыянальны рамантызм», можна было-б адшукаць у ёй і мамэнты іншыя стыляў, паказаных Багдановічам у межах нашаніўскага «паўторнага курсу», аж да таго навет сантымэнталізму. Ідучы-ж яшчэ бліжэй да канкрэтнага, можна было-б назваць «Новую Зямлю» — «кароткім паўторным курсам» манумэнтальнае паэмы. У крытыцы ўжо адзначаліся й тыя канкрэтныя творы гэтага жанру, якія «паўтарала каротка» «Новая Зямля», ад Гамэравых «Ільяды» (Лёсік, Дварчанін) і «Адысэі» (праф. Пятуховіч), фінскае «Калевалы» й Лёнгфэлявае «Гаяваты» (акад. Замоцін) празь Міцкевічавага «Пана Тадэуша» й Пушкінавага «Аўгена Анегіна» (Лёсік, Байкоў) да Нікіцінавага «Кулака (Клейнборт). Усе робленыя крытыкаю зьбліжэньні «Новае Зямлі» зь пералічанымі творамі й праўныя ў роўніцы гэтага «паўторнага курсу». Запраўды, з кажнага з гэных твораў «Новая Зямля» так ці начай паўтарае тыя ці іншыя мамэнты: зь «Ільяды» — «апісаньні ўсяго, аднаго за адным, навет самых дробязяў жыцьця» (Дварчанін), «амаль што эпічны спакой «Калевалы», апісуючай да маленькіх падрабязгаў стары народны лад, а часамі навет і непасярэднае ўспрыйманьне жыцьця й прыроды, дасягнутыя, напр., «Песьняй аб Гаяваце» Лёнгфэлё (акад. Замоцін), «Пана Тадэуша» — патрыятычна-лірычны й этнаграфічна-бытавы падыход (Я. Лёсік) ды парнае жаноцкае рыфмаваньне, з «Анегіна» — падыход у вапісаньнях (М. Гарэцкі) ды чатырохстопны ямб, з «Кулака» — падыход «не назіральніка збоку, а мастака з народу», «праўдашукальніка з народу» (Клейнборт). З другога боку, ніяк не «паўтарае» «Новая Зямля» месца ў гістарычна-літаратурным працэсе пералічаных твораў (тут, пэўна-ж, мыляецца Байкоў у сваіх супаставах з «Панам Тадэушам» ды «Аўгенам Анегінам»), ані іхнае агульнае мастацкае якасьці, ані сюжэтнасьці (успомніць хоць-бы раманічныя мамэнты, «Новай Зямлёй» зусім не закранутыя), ані страфічнасьці, ані мамэнтаў сацыяльных (нат ў «Кулаку» г. зв. «собсьніцтва» Лукіча зусім іншае, чымся ў Міхала з «Новае Зямлі»). Робленыя Дубовічам супаставы Коласавае паэмы зь «Зямлёй» Э. Золя й творчасьцяй Вэргарна ў роўніцы праблемы «зямлі» вельмі-ж вузкія й штучныя.

Ды «Новая Зямля» адзначаецца «паўторнасьцяй» ня толькі ў дачыненьні да літаратуры сусьветнае — літаратуры «людзей». Яна ўбірае ў сябе — «паўтарае» і шмат мамэнтаў, назапашаных перад ёй нат сьціплай нашай літаратурай беларускай, пачынаючы яшчэ ад «Энэіды» навыварат», «Тараса на Парнасе» ды В. Дуніна-Марцінкевіча, ад іхнае «пацешніцкае» камічнае эпізодавасьці (нат зацемка акад. Карскага пра «дух апавяданьняў Пчолкі» не пазбаўленае рацыі), сацыяльнага «лагодніцтва» (пра пэўную аналёгічнасьць дачыненьня да «паноў» у «Новай Зямлі» і ў Марцінкевіча намі ўжо гаварылася), аж да вершаваньня (тут — поўная блізу згода з «Энэідаю»). На вобраз Міхала ў «Новай Зямлі», пэўна-ж, зьлажыліся й вобраз Тараса з «Тараса на Парнасе» — такога-ж «палясоўшчыка» — панскага служкі, і вобраз «старога лясьніка» Я. Лучыны-Няслухоўскага зь ягонай упорыстасьцяй і настойлівасьцяй (дарэчы, у сваіх аўтабіяграфічных зацемках Колас падае, што вельмі любіў дэклямаваць якраз гэты верш Няслухоўскага), і нат у некаторай меры вобраз «ляснога чалавека» — «Дзеда Завалы» Ядвігіна Ш. Супаставы з адпаведнымі Купалавымі творамі намі ўжо рабіліся, можна адзначыць яшчэ й творы некаторых іншых нашаніўцаў, што так ці начай крыжуюцца з «Новай Зямлёй», найперш — «Апавяданьне бяз назвы» Я. Лёсіка, мала не ідэнтычнае «Новай Зямлі» фактураю, натураграфаванаю з тае-ж канкрэтнае запраўднасьці, а тады «Антона» М. Гарэцкага з тым-жа нашаніўскім установішчам «паказу як людзей» (адно паглыбленым псыхалёгізмам) і навет ізноў зь фігураю «панскага служкі» — лясьніка (праўда, ужо суздром у нэгатыўным пляне). Нарэшце, увабрала — «паўтарыла» «Новая Зямля» і ці мала з ранейшае творчасьці самога Коласа. Дзяржынскі добра адзначае, што «Васіль Чурыла ў вапавяданьні тэй-жа назвы, Максім Заруба ў вапавяданьні «Малады Дубок», Міхась у вапавяданьні «Чорт» — гэта толькі варыянты ўсё таго-ж Міхала з «Новае Зямлі». Да паказаных тым-жа Дзяржынскім Коласавых вершаў, што прымыкаюць да «Новай Зямлі» — «На калядны вечар», «На адзіноце», «Маці», «На рэчцы» — можна дадаць яшчэ «Агляд зямлі», а таксама «Вёска», «Беларускаму люду» — лірычныя матывы апошніх вельмі дакладна паўтораны і ў паэме, у чым ужо — тыя-ж -самаперапевы», за якія дакараў Багдановіч Коласаву лірыку. Аб паўторах — «самаперапевах»», што ёсьць і ўнутры самога твору, гаварыў Байкоў, адно што прыведзены ім прыклад найбольш частага паўтарэньня «ледзь ня ў кажным разьдзеле разважаньняў аб уласнай зямлі й сваім куце» ня зусім укладаецца ў гэтую катэгорыю, паколькі тут паўторнасьць мае й сваю мастацкую мэту ды апраўданьне, з аднаго боку, падчырквaючы настырлівасьць, фіксаванасьць «вызвольнае» ідэі Міхала, а з другога — падтрымваючы існаваньне вельмі слабое, як-бы закансэрваванае напачатку сюжэтнае лініі «новае зямлі».

*

Гэтак, ад самога свайго задуму і ўстановішча да іх разьвязаньня, ад ідэйнага зьместу да мастацкае культуры, нарэшце, аж да свайго характару «кароткага паўторнага курсу» як сусьветных літаратурна-мастацкіх стыляў-плыняў, так і паасобных мамэнтаў эўрапэйскае манумэнтальнае паэмы ды папярэдніх набыткаў беларускае літаратуры й самога Коласа — «Новая Зямля» найпаўней і найхарактэрней рэпрэзэнтуе нашую літаратуру часоў нашаніўскага адраджэнцтва (і нат ягонага беспасярэдняга падрыхтаваньня) ды творчасьць Коласа тых-жа часоў. Дзеля таго-ж, што заканчэньне й зьяўленьне ў сьвет цэласьці твору прыпала на самы канец гэных часоў, тая ягоная рэпрэзэнтацыйнасьць, падмацаваная манумэнтальнасьцяй, абярнулася ў завяршальнасьць у дачыненьні да цэлае эпохі беларускае літаратуры, а нат і нацыянальнае грамадзкасьці. Але-ж, «Новая Зямля» больш, як які-небудзь іншы твор, мае ўсе правы на годнасьць завяршальнага помніка беларускае літаратуры (і наагул нацыянальнага) адраджэньня. Ува ўсей ягонай гістарычнай складанасьці, з усімі пазытыўнымі імкненасьцямі й дасягненьнямі, а таксама й нямінучымі недацягненьнямі.

Дык і будаўнічым гэтага помніка нельга прызнаць аднаго толькі Коласа, як індывідуальнага аўтара паэмы — будаўнічым гэтым выступае цэлы той грамадзкі пласт, што вынес на сабе гэнае адраджэньне ў гісторыю, што вылучыў зь сябе, як аднаго з сваіх прадстаўнікоў і прамоўцаў, самога Коласа. Гэтым «сацыяльным аўтарам» «Новае Зямлі», як называе яго Бабарэка, паводля ягонага слушнага выснаву, ёсьць «тая сацыяльная група, што выйшла ў сьвет зь сялянства і стала прадстаўляць яго ўжо ў іншым — ад таго, зь якога выйшла — асяродзьдзі ды паказваць зьмест сялянскіх «сьвежых крыніц» гэтаму сьвету. Гэта тая група, што ходам гісторыі вымушана была ўзяць на сябе ролю т. ск. «сялянскага хадатая» перад моцнымі сьвету, абараняць яго, як носьбіта адменнае нацыянальнасьці ды дамагацца для чалавека правоў. Такою групаю была група нашаніўскіх адраджанiстых...» Яна будавала сваю так літаратур-

# Словы... сіла... зброя... моц... сіла ў слове... і... словы, словы...

**(Рэфлексыі беларускага журналістага на фоне сучасных падзеяў)**

Радзіма... бацька народаў... дэмакрацыя...

Незалежнасьць... калхоз... парытэт...

Бацькаўшчына... фашызм... адзінанедзялімства...

Беларусь... дэмагогія... сэпаратызм...

Голас Беларуса... Трэйцяя сіла... аблуда...

Супрацоўнітва... фэдэралізм... шавіністы... і гэтак далей і да гэтага падобныя словы, словы й словы... Як часта й пры розных нагодах мы іх чуем, чытаем, адчуваем і перажываем! Словы... Ці толькі гэта словы, словы ćамі сабой?..

Не, гэта ёсьць зьмест жыцьцёвых турботаў сучаснага палітычнага эмігранта із за зялезнай заслоны. Гэта нэрвовы згустак душы чалавека. Гэта найчасьцей заклік да ўздыму, дзеі, руху, змаганьня! Ня важна які, але заклік.

Словы й словы!.. Колькі-ж у іх крыецца сьвятога, маральнага, высокалюдзкага, боскага, і адначасна аблуднага, крыважэрнага, фарызэйскага, пякельнага зьместу!

Слова... Якое-ж ты велічнае, людзкое слова! Які-ж гэта найцудоўнейшы боскі дар чалавеку!.. «На пачатку было слова...»

Слова... магутнае роднае слова! Якое-ж ты цяпер непадобнае да таго, што было «на пачатку», да таго першага, цёплага, лагоднага, мілага й каханага, пачутага з вуснаў роднай матулі над нашай калыскай!..

*

Сіла... Рушацца далоў скляпеньні старазапаветнай сьвятыні пад ціскам плячэй Самсона... разьбіваюцца ў шчэнт... сіла! Моц! Праўда!

Дымяцца печы Асьвенцімскіх крэматорыяў... смугляць кволыя людзкія косьці... сіла!

Трашчаць рэбры на Лубянках... равуць нема на Варкутах: «начальнічак, хлеба-а!», вязуць збожжа ў Мадрыды й Бэрліны, растуць месты ў Запаляр'і, лучаць рэкі ў Волгадоны й Беламоры, выкарчоўваюцца «нацдэмы», снуюць цені ў Віньніцах і Катыні, стаяць аўты ў сьвятынях..., э-эх, сіла! «Э-эх, дубінушка, ухнем!»... Сіла... гвалт... пекла!

Вогненны грыб узьняўся над Гірашымай... сотні тысячаў трупаў... руіны... пустыня... сіла... Сіла, магутнасьць, перасьцярога!

«Забараніць, зьнішчыць усе запасы атамных бомбаў!.. гэта нечалавечна!..» словы, словы бязсільля, словы моцы — моцы азлабленьня, хітрасьці, а хітрасьць... сіла.

Сіла — хітрасьць, сіла слова аблуды..., паляцелі чарадой словы ў Канаду, Лёндан, Нью-Ёрк... ловяць іх зарубіны, кандэнсуюць і назад... да «бацькі»... фуксяцца ангельцы й розэнбэргуюць амэрыканцы, а Вышынскі «горы варочае» атамнай энэргіяй... сіла, ашуканства, пагроза!

Сіла... а калі сілу ды на сілу?.. Ці можа быць гэткая сіла?.. Ёсьць яна, ужо нарадзілася, тут.. недалёка — крычыць «парытэт» із Мюнхэну. Пяцьдзесят працэнтаў нашых і пацьдзесят працэнтаў «нацменаў» — вось гэта дык сіла-сілішча! Адзіная, моцная, непераможная, бо — «дэмакратычная» сіла! Словы, зноў словы .. дзе-ж сіла, хіба, мо' ў слове?

«На пачатку было слова...»

Гэткіх ня было й на пачатку, бо каб былі, то ня было-б і пачатку!

Словы, словы, дзе-ж моц вашая?!..

*

Зброя... вытворчая, духовая, халодная, вогнястрэльная — наагул: зброя, прылады, аружжа. Няўзброены чалавек не чалавек — жывёла. Што ён варт на бязьлюдным абтоку, як чалавек, калі ня мае найпрасьцейшай зброі, як камень ці палка?

Першай зброяй чалавека, што розьніла яго ад жывёлы, быў звычайны кій. Кій, як ведама, мае два канцы. Чым розьніцца ад бяздушнай жывёлы ўзброены чалавек, што забівае сабе падобнага, каб знайсьці ў кішані таго марных тры грашакі?...

Чалавек робіць, удасканальвае, ужывае зброю, бо МУСІЦЬ яе рабіць і ўжываць... Мусіць!

Спосаб, характар, месца й мэта ўжыцьця зброі вызначаюць маральную вартасьць гэтага ўжыцьця. Рабунак, гвалт, паняволеньне — адна якасьць і вартасьць; абарона, перасьлед гвалтаўніка, вызваленьне ад паняволеньня — іншыя якасьці.

Зброя..., дзе зброя, дзейсная зброя — там, кажуць, сіла... Ці гэта праўда?... Ці кажная зброя сіла?...

«Зямлі й хлеба!»... разьляцеўся царскі фронт, ня вытрымала матар'яльная зброя... на арэне — слова!

«Далоў калхозы, мы нясём вызваленьне!»... залілі горды азьвярэлага фашызму родныя землі... заламалася магутная сіла зброі-насільля, уступіла фарызэйскай моцы слова...

«За Радзіму, бі гвалтаўнікоў-чужынцаў!»... вярнулася зноў катоўня рабскага прыгону бальшавізму... заламалася матар'яльная сіла зброі пад ціскам духовай моцы слова, хай і на гэты раз аблуднага, але слова, усё-ж такі слова!

«Мы ня маем ніякіх інтарэсаў у Азіі, свае войскі адтуль мы забіраем»... словы, бязглуздыя словы, але словы, што прынесьлі няволю 400-охсотмільённаму насельніцтву Кітая, палілі крывёю палі і ўзгоркі Карэі... словы, якія-ж вы моцныя ў людзкім болі й бясьсільныя ў сваёй нерашучасьці!...

*

Слова! Слова й сіла!... Зброя, зброя — сіла; бясьсільле зброі — сіла слова. Бясьсільле зброі й слова перад сілай... слова! Якія парадоксы!...

«На пачатку было слова...»

Наш век — век сілы і... слова. У чым-жа тады сіла?... Дзе яна?... Слова... У разьбіцьці атаму?... У ракетных снарадах?... У вадароднай бомбе?... СЛОВА!...

«На пачатку было слова...»

Не перамагчы цябе ніякімі мільярдамі атамна-вадародных бомбаў зьмястоўнае, жыцьцёдайнае, агульналюдзкае, боскае й роднае слова!

Не параўнаць ні зь якімі матар'яльнымі разбурэньнямі сучасных сатанінскіх сродкаў вайны тваю жудасную моц, насычаную пякельна-аблудным зьместам, бо ты, фарызэйскае слова, нішчыш, крышыш, калечыш вечныя людзкія вартасьці — душу чалавека!

Якое-ж ты аднак недалужнае, мізэрнае, слова бязь зьместу, слова дзеля слова, ты, слова — порхаўка!...

Якая-ж аднак безьліч словаў на сьвеце, якая вясёлкавая колькасьць тваіх адценяў! Словы... Сіла й слова... **Слова ёсьць сіла, зброя, моц!** Слова — вялікі дар Божы, якім трэба ўмець карыстацца!

*

Пісьменьнік... аратар... жаўнер... журналісты... Усе людзі зброі. Людзі сілы, моцы й немачы! Жаўнер — сілай матар'яльнай зброі бароніць сілы духа вольнага слова ў далёкай Карэі, гэта жаўнер, што паддаўся моцы агульналюдзкага слова. Другі-ж жаўнер, у тэйжа Карэі, пхае іншую матар'яльную сілу пад ціскам моцы... слова, слова гвалту, фальшу, ашуканства... Вынік — немач, руіны, зьдзек, нішчэньне каштоўнасьцяў... толькі таму, што слова пашло супраць слова, слова праўды супраць слова маны!

Майстры слова — таксама ўзброеныя жаўнеры, жаўнеры з больш магутнейшай зброяй, з больш зьніштажальнай! Словы Маркса шмат каму перавярнулі мазгі, словы бальшавізму зламалі веру, разьбілі сям'ю, зьмяшалі з гразёю душу чалавека, забілі гэтую душу!

Гвалтаўнікоў фізычных і фізычных забойцаў судзяць ува ўсім сьвеце. Забойцы духовыя, што зьдзекуюцца над сваімі ахвярамі пры дапамозе зброі-слова, гуляюць па сьвеце вольна!...

Матар'яльнае шкода, зьнішчэньне, фізычнае пашкоджаньне больш відавочныя... слоўнае — не заўсёды. Слова вельмі часта — маска, хамэлеонаўская ахварбоўка, прэцызыйная атрута, опій...

*

Вельмі няўдзячнае становішча сумленнага журналістага наагул, вельмі... асабліва журналістага беларускай незалежніцкай прэсы на эміграцыі. Кажны журналісты наагул (запраўдны, што ўсебакова й салідна інфармуе сваіх чытачоў, зьяўляецца іхным «вокам і вухам»), амаль заўсёды мае больш непрыяцеляў чымсь прыхільнікаў, яго больш «церпяць» чым шануюць у розных грамадзка-палітычных і таварыскіх сфэрах, бо-ж «сорамна» й «ня выпадае» ня прызнаваць рацыі (на словах...) гэткаму «ведамаму» й «паважанаму», як шаноўны сп. Х, ці У (трасца яму ў бок, зь ягоным язычком, яшчэ нас расьпячэ ў газэтах!). Гэта агульнаведамае зьявішча не ад сяньня, зь ім усе салідныя журналістыя прымірыліся й пераносяць не цяжэй, як, прыкладам, звычайны сабе восенскі катар.

Беларускі журналісты на эміграцыі пераважна есьць свой хлеб із іншай дзежкі, часта даволі цяжкой фізычнай працай здабываны. Ён, ня будзе перасолам, калі скажам — герой, мучанік... бо драбкі свайго вольнага часу адрывае, крадзе ад сябе й сваёй сям'і на адшуканьне, апрацоўку й паданьне сваім суродзічам неабходнай духовай стравы... стравы, што прагна ўспрыймаецца, вельмі часта бяскрытычна, людзьмі менш спрактыкаванымі ў сучасным слоўным вадавароце.

Таму і адказнасьць беларускага журналістага куды большая, адказнасьць перад сваім сумленьнем, Бацькаўшчынай, народам... Ці толькі адказнасьць?... Яшчэ й небясьпека... небясьпека графаманства, згубленьня яснай сьцежкі, зацятасьць у вазлабленьні праз уроеную «абразу» свайго я — вынік: кублы памыяў на ўсё дасюлешняе, чым ён жыў дагэтуль, у імя нейкай новай «трэйцяй» праўды, праўды-міту, бо **праўда можа быць толькі адна.** Знайсьці яе мо' й цяжка ў цяперашнім моры слоўнай эквілібрыстыкі, але можна й трэба. І яна, гэтая **нашая нацыянальная незалежніцкая беларуская праўда даўно знойдзена!**

Таму вельмі несалідным зьявішчам ёсьць «попкаваньне» розных «урапатрыётаў» і шуканьні «дзіры ў цэлым» Хмараўцаў. Пэрсанальныя «абразы» павінны адыйсьці на другі плян. На гэтыя пераліваньні з пустога ў парожняе, на вечнае ахайваньне асягнутых посьпехаў, толькі таму, што «безь мяне», шкода часу, энэргіі, грошай. Колькі-б можна было выдаць паважнай, патрэбнай мастацкай і гістарычнай літаратуры ў роднай і іншых мовах, каб затрачаны час і цяжка заробленыя грошы ськіваваць на разумнае?!

Хай злосным пустаслоўем ды паклёпамі займаюцца рататарныя «дзеячы» із «дэмакратычнага камітэту на эміграцыі» ў Трэнтон — ЗША. Гэта іхны хлеб, за гэта ім «браты» даюць, але мала, бо ўкраінскія «фэдэралістыя» свайго «Сходняка» ўсё-ж лепяць друкам і рассылаюць разам з «Новым Рускім Словам». Праўда, аб іх нідзе ў беларускіх колах і ня чутно, хаця іхны «лідар» у сваім «ворганчыку» ад 25. 5. 52 (які выпадкова трапіў у нашыя рукі) урачыста «абвяшчае», што ў ягоны «камітэт» уваходзяць «беларусы з рознымі палітычнымі перакананьнямі, пачынаючы ад беларускіх манархістых(!!!) — лідар Макаров і канчаючы беларускімі сацыялістымі-марксыстымі — лідар А. Вересов». Камэнтары хіба што непатрэбныя, бо прозьвішчы гавораць самі за сябе, а найбольш хіба моцным камэнтарам «беларускі» манархісты Макаров і ня горшы за яго й марксысты!

Аб падобных хімэрах і гаварыць ня варта — яны ня ёсьць праблемай, навет дзіцё зразумее іхную сутнасьць, хоць яны й стараюцца пісаць «на белорусском наречии», а ў запраўднасьці савецкім жаргонам. Успомненыя яны тутака толькі дзеля таго, што ў іхным пісаньні ёсьць адно, чаго ня могуць зразумець часамі нашыя «шукальнікі» нечага новага — гэта страх перад нацыянальнай сьведамасьцю беларусаў, страх перад магчымасьцю кансалідацыі ўсіх здаровых нацыянальных сілаў і сілы гэтыя яны «изволят» «величать» аджыўшым ужо свой век пудзілам — «крывічы»: крывіцкая партыя правяла штучны манэўр падзелу між сабой і стварыла ажно два ўрады й вызначыла ажно двух «прэзыдэнтаў», а далей «...крывічы й слухаць ня хочуць аб дэмакратычных свабодах, аб **плебісцыце,** аб беларусах, якія жадаюць **жыць разам** у ваднэй сям'і із **брацкім рускім народам** (падкрэсьленьні нашыя — А. С.)».

Трэба ўрэшце зразумець усім бяз вынятку, што разьбіцьцё беларускага нацыянальна-вызвольнага фронту на пасобныя шукальніцка-наіўныя групы ідзе на карысьць нашым ворагам, якія самі падказваюць нам, гэта вырываецца ў іх мімаволі, што толькі ў сумеснай акцыі — нашая сіла. Праграмы, спосабы зьдзейсьненьня нашага ідэалу могуць быць розныя, адгэтуль і розныя партыі ці групы, але мэта адна, і бэсьціць усё, што набліжае да гэтае мэты, з прычыны толькі ўроена-перабольшаных ушчамленьняў собскіх амбіцыяў, у собскай фантазыі — праступства!

Хай нашыя словы, родныя словы, словы людзей апэруючых імі як духовай зброяй, словы нашых пісьменьнікаў, журналістых, палітыкаў напоўняцца багатым, нацыянальным і агульналюдзкім зьместам, зьместам свабоды й любові! Хай нашыя словы адкінуць назаўсёды хвальш, падлізьніцтва, ашуканства, блеф! Праўдзівае слова, роднае слова, чыстае, высокаідэйнае слова — непераможная сіла, моц, магутнасьць, веліч!

«На пачатку было слова...»

Мы стаімо перад надыходзячым вялікім «пачаткам», пачаткам ходаньня Праўды й Зла...

Верым, што ў гэтым «пачатку» будзе не апошнім і нашае слова... беларускае, незалежніцкае слова...

**Андрэй Сьвіслацкі**

---

**ЯНКА КУПАЛА** 3)

# Раськіданае Гняздо

## ДРАМА у 5-ех АКТАХ

**(Працяг)**

### АКТ ДРУГІ

Сцэна прадстаўляе раськіданыя будынкі: тырчыць шульлё, печ; валяецца бярвеньне, латы, салома, хатняя абстаноўка. У глыбіні сцэны — сад, бліжэй к рампе стаіць адно дзерава, непадалёк ад яго ў непарадку: стол, лавы, табурэткі. Дзеці (Аленка й Юрка), як-бы перапужаныя, гульня ў іх ня клеецца. Час — у два тыдні пасьля першага акту. Перад захадам сонца.

### ЗЬЯВА І

МАРЫЛЯ — ДАНІЛКА — ДЗЕЦІ

ДАНІЛКА. (Прыбіваючы абраз да дзерава). Ну ўжо, мамка, усё гатова! Давёў у парадак хату, як ляпей быць ня можа, навет Божаньку павесіў, каб было перад кім маліцца. А цяпер мушу за сваю работу брацца. (Садзіцца воддаль і майструе скрыпку).

МАРЫЛЯ. (Апускаецца на зямлю й прытуліваецца к дрэўцу). Эх, дажыліся, Божухна, Божухна! Ня вісіць Твой абразок у хатачцы на пачэсным куточку, а тут — на гэтым дзераве, сярод гэтае руіны. Як сірата, вісіць Твой абразок тутака. Дождж яго будзе мыць, сонейка паліць, вецер хістаць, як тэй бярозкай у полі хістаць. Патапталі, Божухна, вярбу Тваю сьвянцоную, пакрышылі Тваю сьвечку грамнічную. А мы, служкі Тваё верныя, сядзім тут, як пагарэльцы на папялішчы, і сонейка Твайго яснага за сьлязамі ня бачым. Ох, ох! Людзі Твайго сонейка ня бачаць, праўданькі Тваё ня бачаць, голасу Твайго ня чуюць. Асьвяці Ты, Божа, душу маю грэшную, не пакінь майго ўдовінага сіроцтва, — пашлі мне сілачкі гэтых малых выхаваць! Укрый іх ад галоднае й халоднае сьмерці, і ад благіх людзей укрый іх, Божа!

ДАНІЛКА. Мамка. мамачка, не галасеце гэтак, а то аж мне на сьлёзы зьбіраецца, як пагляджу я на цябе!.. Шкода таты, ведама, але што-ж ты зробіш? Дык не бядуйце, мамка! Я не задоўга ўжо йскрыпку сваю скончу і так тады зайграю, што ўжо нікому з нас так галасіць не захочацца! А цяпер ляпей будзем аб чым іншым гутарку вясьці. Мне як вельмі сумна зробіцца, што йскрыпка не ўдаецца, дык я тады сам з сабою гутару і гутару... Ну, што-ж бы такое? Э! трудна нейк і да розуму прыйсьці. Ага! Вось скажэце мне, мамка, чаму гэта так даўно тату не хавалі? Усё ніяк дагэтуль не сабраўся папытацца цябе аб гэтым.

МАРЫЛЯ. Не хавалі, бо так трэба было, — сьледзтва рабілі. Закон, бачыш, такі ёсьць: як хто сам праз сябе памрэ, дык датуль ня можна хаваць, пакуль ня дойдуць, як і праз што ён душой загавеў.

ДАНІЛКА. Ага! Ведаю цяпер. Значыцца, як і я памру, дык ня будуць датуль хаваць, пакуль не даведаюцца ў мяне, на што я памёр. А-а-а скажэце мне, мамка, на што гэта людзі родзяцца, каб пасьля ўміраць? Бо-ж, я думаю, не вялікі цымус ляжаць засыпанаму зямлёй.

МАРЫЛЯ. Гэтак ужо Богам устроена на сьвеце. Нічога не парадзіш.

ДАНІЛКА. Не самавітае, як так, гэтае ўстройства. А ці праўда, мамка, што ёсьць такая старонка, праз каторую плывуць крыніцы з жывой вадою? Кажуць, калі напіцца тае вадзіцы жыватворнае, дык чалавек ніколі ня ўмрэ.

МАРЫЛЯ. Можа й ёсьць. Хто-ж яго ведае? Але яшчэ тае крыніцы ніхто ня бачыў і ня піў зь яе, бо каб хтонебудзь піў, то хоць адзін чалавек жыў-бы і жыў на сьвеце больш, як усе людзі жывуць, а так няма: усе як ёсьць рана-позна ўміралі, уміраюць і ўміраць будуць. Такая ўжо воля Боская.

ДАНІЛКА. Але ўсё такі жывая вада ёсьць, як сабе, мамка, хочаш! Бо і на што-ж бы ўсё так аб ёй гаварылі? Як я вырасту такі вялікі й дужы, як наш Сымонка, тады пайду з сваёй іскрыпачкай шукаць гэнае крыніцы, а як знайду — сам нап'юся і вас усіх пачастую, і будзем мы жыць і жыць, аж пакуль не памром!

МАРЫЛЯ. Ну, і дагаварыўся! (Паўза).

ДАНІЛКА. Растлумачце мне, мамка, на што людзі хаты будуюць, а пасьля іх самі-ж раськідаюць?

МАРЫЛЯ. Будаваць, то самі будуюць, а раськідаюць ня людзі, іхняя нядоля горкая раськідае.

ДАНІЛКА. Цікавасьць, што гэта такая за паня горкая — нядоля? Для яе мушу пашукаць такое вады, ад каторае яна, як вып'е, дык адразу памрэ. Але, папраўдзе кажучы, калі так нядоля раськідае тое, што людзі будуюць, дык на што-ж зусім будаваць? Гэта-ж, далі-паначкі, мне шмат ляпей і выгадней вось цяперака на гэтым ламацьці бязь сьцен і страхі, як было ў хаце! Калі сядзеў я ў хаце і майстраваў маю скрыпачку, то мне здавалася, што я сяджу ў нейкай клетцы, адкуль і вырвацца трудна будзе ў сьвет. А тут — аніводнае загарадкі! Ляці сабе, куды хочаш, як птушка, і ўсё такое. А гэтая вялікая страха зьлепленая зь неба, куды прыгажэйшая, як была наша —саламяная. (Паўза). Ну, вось адна дошчачка як-бы й гатова, цяпер будзем рабіць другую. Што-ж гэта я хацеў яшчэ папытацца? Ага! Успомніў! Скажэце, мамка, ці далёка гэта канец сьвету? Кажуць, міль сто пэўне будзе ад нас, калі не балей?

МАРЫЛЯ. Канец сьвету там, дзе канец шчасьцю людзкому.

ДАНІЛКА. Э-э! Мамка так гаворыш, што і сам пісар не разьбярэ.

### ЗЬЯВА ІІ

ТЫЯ-Ж і СЫМОН

МАРЫЛЯ. (Да Сымона, глуха). Ужо ты вярнуўся? Пахавалі? Можа на могі...

СЫМОН. (Садзячыся, панура). А як-жа!... пахавалі, толькі не на могілках... не пазволілі! За магілкавым плотам пахавалі. Тут паміж жывымі ня было яму месца — ня стала яму прыстанішча і паміж нябошчыкамі. Самагуб!... А спытайцеся, хто яго давёў да гэтага самагубства?!

МАРЫЛЯ. Нічога, дзеткі, не парадзіш. Грэшнай сьмерцю памёр — мусіць пакутаваць.

СЫМОН. Пакутаваць! пакутаваць! Гэта вечная пакута толькі чалавека на зьвера перарабляе, дзічэць прыходзіцца, як цемняку якому. Што яна, гэта пакута, са мной зрабіла? Я сам сябе не пазнаю. Калі кідаў сягоньня на бацькаў труп зямлю, то мне здавалася, што гэтым жвірам чырвоным засыпаю самога сябе, сваё шчасьце, свае леты маладыя; засыпаю Бога, людзей, цэлы сьвет; здавалася, усё чыста хаваю на векі вечныя ў сьцюдзёнай магіле.

МАРЫЛЯ. Нічога, сынку! Гэта пяройдзе, гэта толькі жаль вялікі празь цябе гавора. Ведай, што яшчэ ня ўсё і ня ўсіх ты пахаваў: асталіся ў цябе я, браткі і сястрычкі твае — імі і зь імі ты мусіш жыць, і павінен жыць. Цяжанька цяпер табе, — ды і каму з нас сягоньня тут лёганька, — але што чыніць. Памучымся які месяц — другі, прыдаўлены сваім сіроцтвам і адзіноцтвам; месяц — другі будзеш снаваць, як тапельнік між жывымі, не знайходзячы сабе прыстанішча, а там, за які гадок, як зацьвітуць на вясну першыя кветкі над бацькавай вечнай пасьцеляй, — зацьвітуць краскі і ў цябе на душы і на сэрцы, сьветлыя краскі ціхага спакою і журбы сьвятой. Будзеш далей жыць і шукаць шчасьця на сьвеце.

СЫМОН. Кветкі! Шчасьце! Паганыя ногі патопчуць кветкі на бацькавай магіле, як і яго самога ў зямлю затапталі; а шчасьце — каб як глыбока захаваў у сабе, — то табе яго збэсьцяць, бязь ніякае літасьці збэсьцяць! Нячыстымі рукамі будуць капацца ў душы, пакуль ня вырвуць зь яе гэтага шчасьця і ня кінуць яго пад ногі і не раздавяць. (Паўза).

МАРЫЛЯ. Усё-ж такі, як-бы там сабе ня было, а нам трэба думаць, як далей жыць. Паняволі мусім сабе даваць якую раду. Гэтага, сынок, мала, што ты загадаў перацягнуць сюды ламацьцё з поля. Грызьці яго ня будзем.

СЫМОН. Што-ж, мамка, ізноў да таго мяркуець, каб ішоў туды, да іх, ласкі прасіць?

# Г. зв. II-гі Ўсебеларускі Кангрэс

У імя гістарычнай праўды хачу перадаць усей беларускай эміграцыі, як узапраўды адбываўся г. зв. другі Ўсебеларускі Кангрэс, хто яго склікаў, як ён праводзіўся, дзеля чаго і ў якіх абставінах. Раблю гэта дзеля таго, што некаторыя людзі сьведама хвальшуюць гістарычныя факты, падносячы няправільна гэты кангрэс да вышыні агульнанароднага прадстаўніцтва, а тыя, што ня былі на гэтым кангрэсе, ня могуць ніяк даведацца, як было ў запраўднасьці.

Патрэба нейкага беларускага прадстаўніцтва пры Генэральным Камісары Беларусі была агульна ведамай, бо хоць немцы й акупавалі Беларусь і рабілі ў ёй, што хацелі, то ўсё-ж такі свае людзі хоць-бы ў характары дараднікаў маглі-б ня мала зрабіць для беларускай справы, маглі-б абараніць перад тымі-ж самымі немцамі не адну нацыянальную пазыцыю. Першым, як ведама, такім пасярэднікам між беларускім грамадзянствам і генэральным камісарам Беларусі, забітым потым, Кубэ быў др. Ермачэнка, старшыня Беларускай Самапомачы. Так прайшлі 1941 і 1942 гады. Тады др. Ермачэнку замяніў сп. Ю. Сабалеўскі, які, дзеля сваіх скромных палітычных здольнасьцяў, ролю гэтага лучніка выконваў бадай што мала лепей за свайго папярэдніка.

Немцы прачувалі сваю пагібель і агляддаліся за больш энэргічным і больш папулярным чалавекам, які-б меў за сабой нейкі большы аўтарытэт. Выбар іх паў на сп. Радаслава Астроўскага, які перад гэтым працаваў у ўсходніх акругах на высокіх адміністрацыйных становішчах. Перад гэтым аднак немцы зрабілі мітынгі ў розных гарадох Беларусі, каб прыслухацца да голасу беларускага актыву. Такі вось сход адбыўся і ў Баранавічах у канцы 1943 году, на якім бальшыня прамоўцаў, у тым ліку й я, лічылі, што надалей зь немцамі можам супрацоўнічаць толькі на ніве культурнай, а падыймаць вайсковую акцыю ёсьць за позна, бо беларуская Самаахова, распачатая так бойка на пачатку 1942 году, была зьліквідаваная самымі-ж немцамі, як сіла, якая магла-б у будучыні ня лічыцца зь імі. Такія вось інструкцыі ад масаў атрымаў прысутны на залі Астроўскі, які ўжо меў выйсьці ў Менск да генэральнага камісара Беларусі генэрала СС фон Готбэрга.

Пасьля нейкіх двух тыдняў мы даведаліся, што Готбэрг, каб шырэй зьмабілізаваць беларускія масы на змаганьне з камуністычнымі партызанамі. загадаў стварыць **Беларускую Цэнтральную Раду** і яе прэзыдэнтам назначыў Р. Астроўскага,якому даверыў дабіраць сабе радных і супрацоўнікаў. Усіх аднак, уключна з прэзыдэнтам (глядзі § 3 Статуту Рады), зацьвярджае генэральны камісар. Цяпер пасыпаліся назначэньні на радных, зь якіх некаторыя, як прыкладам такі патрыёт, замучаны бальшавікамі ў 1945 годзе, др. Ст. Грынкевіч, не скарысталі. Увa ўсей арганізацыйнай акцыі Рады выдатна дапамагала нямецкая служба бясьпечнасьці (СД — Сіхэргайтсдінст). Сам Астроўскі кінуў тады кліч: «Бацькаўшчыну бараніць ніколі ня позна». І ўсімі магчымымі спосабамі, ня выключаючы й тэрору, як гэта было са мной, пачаў здабываць сабе супрацоўнікаў.

Адзіным пазытыўным козырам усей гэтай акцыі была думка: а ну-ж немцы выйграюць вайну або зробяць сэпаратны мір з заходнімі альянтамі. На гэта аднак не заносілася. Гэтак праходзілі першыя месяцы 1944 году. Вырасла Беларуская Краёвая Абарона, намесьнікі Беларускай Цэнтральнай Рады ў акругах пачалі зь немцамі змагацца за адбраньне з пад іхнага падпарадкаваньня школьніцтва, Саюзу Беларускае Моладзі і г. п. Былі спробы, або лепш намёкі на тое, каб правесьці народнае галасаваньне, чаго два гады перад гэтым дамагаўся ад немцаў бурмістр гораду Менску праф. Іваноўскі і, відаць, за гэта потым і загінуў, бо нацыстым такая дэмакратычная выдумка ня месьцілася нат у галаве. У канцы аднак травеня 1944 году, калі гарэла ўжо немцам зямля пад нагамі, яны дазволілі адбыць у Менску зьезд беларускага актыву. Было тады гэта патрэбна немцам, каб усё-ж такі як найшчыльней зьвязацца зь беларускімі масамі. Было гэта патрэбна й Астроўскаму, каб падмацаваць сваё становішча. Было гэта таксама патрэбным і беларускаму актыву, які думаў, што на такім зьезьдзе можа ўдасца дабіцца ад немцаў большай свабоды дзеяньня.

I так каля 15 чэрвеня 1944 году я, як намесьнік Беларускай Цэнтральнай Рады на Вялейскую акругу, атрымаў загад ад прэзыдэнта БЦР: выслаць на 27. 6. 1944 году ад 45 да 48 прадстаўнікоў ад сваёй акругі на кангрэс у Менск. Павінны быць сярод іх інтэлігенты, работнікі й сяляне. Я, як ніздаўна прыбылы ў Вялейку чалавек, ня мог усіх добра знаць і ведаць, дык папрасіў да нарады свайго вайсковага кіраўніка і яшчэ пару мясцовых чалавек, і давай такім спосабам «выбіраць паслоў». Дзесяць дэлегатаў даручылі на сваю руку выбраць раённаму старшыні сп. Мурашку. Ён вызначыў аднак пятнаццаць, бо «ўсе хацелі паехаць на кангрэс» — як ён сказаў. Таксама і ў іншых раёнах я даручыў раённым старшыням вызначыць па некалькі сялян і работнікаў, а ў маім габінэце было намі вызначана звыш 25 чалавек.

На кангрэс ехалі ўсе ахвотна, бо, сабраўшыся, хацелі паказаць прэзыдэнту БЦР і немцам, як зь імі дрэнна абходзяцца СС, СД і розныя зондэрфюрэры, а некаторыя зь інтэлігенцыі наіўна навет думалі, што можа й нейкі беларускі ўрад удасца вытаргаваць ад немцаў. Праграма зьезду ня была нікому ведамая, быў такі прадугледжаны парадак дня. Калі я зьявіўся перад сп. прэзыдэнтам БЦР, той, рэч ясная, быў вельмі заняты й сказаў, каб я зьвярнуўся за інструкцыямі да віцэ-прэзыдэнта. Прыходжу й спатыкаю сваіх знаёмых яшчэ з унівэрсытэцкіх часоў і аднаго незнаёмага чалавека. Сп. віцэпрэзыдэнт дае даручэньні, хто і што мае гаварыць на зьезьдзе, а калі дайшла чарга й да мяне, то даў і мне загад забраць голас у справах замежных Беларусі. Аб адарваных немцамі Горадзеншчыне й Беласточчыне, а так-жа аб перададзенай летувісам Віленшчыне я павінен быў прамаўчаць, за тое меў атакаваць толькі Ялтанскі дагавор, бальшавікоў і Рузвэльта. Ялтанскі дагавор быў тады для мяне зусім ня ведамы, але-ж нешта мусіў выдумаць, бо адно толькі было для мяне пэўным, што паводля гэтага дагавору альянты аддавалі Беларусь бальшавіком. — А хто гэты за чалавек? — пытаю віцэ-прэзыдэнта, паказваючы ў бок незнаёмага. — А, гэта варта пазнаёміцца, ён будзе старшынёю зьезду, бо ён зь Менску й належыць да прафсаюзу. Гэта быў сп. Юхім Кіпель.

Назаўтрае распачаўся зьезд у прысутнасьці звыш 1000 «дэлегатаў». Зьезд адчыніў сп. Астроўскі, а на старшыню запрапанаваў сп. Кіпеля, што, зразумела, прайшло праз аклямацыі. Далей пасыпаліся прамовы. Найвастрэй і найбольш праўдзіва сказаў палкоўнік Езавітаў, што аж нейкі шорах пракаціўся па залі, а сп. Астроўскі аж мусіў пасьля злагодзіць тон прамовы. Прыйшла і на мяне чарга. Узышоў я на сцэну й бачу, што ў цэнтральнай лёжы на першым балконе сядзяць: прадстаўнік генэральнага камісара Беларусі Фішэр, рэфэрэнт гэтага-ж камісарыяту Сівіца, які прычыніўся да расстрэлу кс. В. Гадлеўскага, прадстаўнікі СД, а каля іх яшчэ трох мне незнаёмых немцаў. Гэта была наша ўлада, якая сачыла за ходам кангрэсу. Гаварыў я двузначна так, як і ўсе прамоўцы.. Наканец была вынесеная ўдзячнасьць для нямецкай улады і для фюрэра (паспрабавалі-б ня вынесьці!) ды было пацьверджана назначэньне Астроўскага прэзыдэнтам БЦР, як дапаможнага ворагу пры нямецкіх уладах, а аб нейкай яе самастойнай, ужо ня толькі дзяржаўнай, дзейнасьці і мовы быць не магло.

Не абыйшлося й бязь інцыдэнтаў. Калі на заканчэньне сп. Астроўскі й сп. Кіпель узносілі воклікі за ўсякую ўсячыну, на балконе з права раздаўся голас сп. Ф. Г., прадстаўніка зь Вільні: «Няхай жыве поўнай незалежнасьці Беларускі народ уа ўсіх яго этнаграфічных межах!» «Няхай жыве!» — загудзела ўся зала.

Кангрэс мёўся трываць каля чатырох дзён, але яго прыйшлося закончыць у першы дзень, бо гукі гарматаў з пад Сенна ў кірунку Даўгінава ігралі што раз мацней, а дымок з будынку Генэральнага Камісарыяту ген. фон Готбэрга, гэтага ката беларускага народу, ішоў што раз гусьцейшы — гэта палілі ўсякія дакумэнты, якіх ня думалі забраць з сабой. Дык вось гэтак былі «выбіраныя» дэлегаты на г. зв. другі Ўсебеларускі Кангрэс, у гэткай абставіне ён быў праводжаны, кангрэс, які некаторыя хочаць сяньня ўважаць за найвышэйшае нацыянальнае прадстаўніцтва беларускага народу.

**Былы Намесьнік Беларускай Цэнтральнай Рады на Вялейскую Акругу**
**Я. М.**

# Беларус старшынёй студэнцкай арганізацыі

На ўнівэрсытэце ў Лювэне студыююць студэнты аж 48 розных нацыянальнасьцяў. Зь іх найбольш лічбовай зьяўляецца беларуская група. Для вымены навуковых і культурных здабыткаў тут зарганізаваны гурток чужынецкіх студэнтаў. З пачаткам новага навучальнага году, 16. 10. 52, адбыўся перавыбарны сход. Быў выбраны новы ўрад гуртка, а на старшыню яго беларус Т. Цімафейчык. Заступнікам яго зьяўляецца мадзярка, сакратаром грэк, скарбнікам ангелец, сябрам ураду — турак.

Трэба адцеміць, што так важнае становішча старшыні гуртка беларускія студэнты перанялі ад амэрыканца, які скончыў сваю кадэнцыю. Гэта яшчэ адзін доказ, якім паважаньнем карыстаюцца тут беларускія студэнты паміж іншымі студэнтамі ўнівэрсытэту. Гэтае паважаньне зьяўляецца дасягнутым толькі шчырай працай як на ніве навуковай, гэтак і культурнай.

**А. Шацько**

# У Амэрыцы па амэрыканску

Эўрапеец ня мог-бы сабе ўявіць, калі-б, прыкладам, кандыдат на прэзыдэнта Францыі перад выбарамі агітаваў за самога сябе, разьяжджаючы па розных мясцовасьцях Францыі й выступаючы на перадвыбарных мітынгах. Але тое, што ёсьць немагчымым у Эўропе, зьяўляецца зусім нармальным зьявішчам у Амэрыцы. Возьмем апошнія прэзыдэнцкія выбары. У перадвыбарнай кампаніі якраз найбольш былі актыўнымі абодва кандыдаты на прэзыдэнта ЗША: Айзэнгаўэр і Стывэнсон. Гэтак Айзэнгаўэр у ходзе дванаццацітыднёвай перавыбарнай кампаніі, у мэтах прыбаньня для сябе галасоў, адбыў уздоўж і ўпоперак Амэрыкі 53.500 кілямэтраў падарожжа, з гэтага 32.000 клм. самалётам, 12.000 клм. чыгункай і каля 9.000 клм. аўтамабілямі. Ягоны канкурэнт Стывэнсон адбыў 29.000 клм. самалётам, 7.000 клм. чыгункай і 3.600 клм. аўтамабілем. За гэты час Айзэнгаўэр сказаў 40 вялікіх і 230 малых прамоваў, а Стывэнсон — 34 вялікія й 177 малых прамоваў.

### ГАДАВІНА СЛУЦКАГА ПАЎСТАНЬНЯ Ў ФРАНЦЫІ

**Дзеля ўшанаваньня сьветлае памяці паўшых Гэрояў Слуцкага паўстаньня, у Францыі-Норд, у Roubaix-Tourcoing, дня 6. 12. 52 а гадз. 17 адбудзецца Паніхіда і ўрачыстая акадэмія для беларусаў гэтае акругі з удзелам а. Аўгена Смаршчка і студэнцкага хору зь Лювэну пад кіраўніцтвам праф. М. Равенскага.**

**На другі дзень, у нядзелю 7. 12. 52 а. Аўген Смаршчок і студэнцкі хор прымуць удзел у ўрачыстай Літургіі й Паніхідзе ў Парыжы, якія адбудуцца а гадз. 10 раніцы ў Украінскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царкве: 5, Rue Gasnier Guy, Paris 20. Metro: Martin Nadaud. Пасьля Божае Службы будзе наладжаная жалобная акадэмія ў чэсьць Слуцкіх змагароў з удзелам студэнцкага хору.**

**Дакладныя паведамленьні разашлюць мясцовыя камітэты.**

## Прадстаўніцтвы „Бацькаўшчыны“

**ПАЗА НЯМЕЧЧЫНАЙ:**

1. **У Бэльгіі:** Mr. Karas Leonid, 19, Place Hoover, Louvain, Belgique.
2. **У Ангельшчыне:** The Whiteruthenian Editorial Foundation 52, Penn Road, London, N. 7. England.
3. **У Францыі:** Mr. Symaniec Vladimir, 15, rue du Ltn. Boncour, Neuilly s/Seine, France. або: U. Kastelan 53, rue Leon Salembien Tourcoing (Nord), France
4. **У ЗША:** Mr. B. Danilovich, 222 Suydam St. New Brunswick, N. J. U.S.A.
5. **У Канадзе:** Mr. Joseph Corny, 270 Clinton Str. Toronto, Ont., Canada.
6. **У Аргентыне:** Asociacion Bielorusa en la Argentina calle Coronel Sayos 2981, 4 de Junio prov. Buenos Aires. Argentina.
7. **У Аўстраліі:** Mr. Jackievic Donat, 60 Fisher Street East Brisbane, Q-ld, Australia.
8. **У Вэнэцуэлі:** Dudzickj Vladimir, Crucesita a San Miquel 74, Caracas, Venezuela.
9. **У Новай Зэляндыі:** Mr. Karanieuski Marian, R. N. Z. A. F. Station Taieri. Otago. New Zeeland.

---

МАРЫЛЯ. А хоць-бы і так, то што-ж там вельмі такое?

СЫМОН. Я ўжо мамцы ад першага дня казаў і цяпер тое кажу: не пайду туды і вы ўсе ня пойдзеце. Аднаго кроку ў той бок ня дам, і адгэтуль не саступлю. Магіла татава стала веквечнай перагародкай паміж імі й намі, і ня зьніштожыць яе сіле чалавечай! Гора таму, хто першы перaступе гэты насып магільны над сваім родным, працягне рукі к ім і пойдзе зь імі! Ня доўга будзе хадня побач зь імі. Бо яны, калі сэрца ня вырвуць і душы ня збэсьцяць зусім, то хоць вочы асьлепляць і пусьцяць блуднымі сьцежкамі на вечнае бадзяньне, на вечны зьдзек і паніжэньне. А свае на такога будуць тыкаць пальцамі і шаптаць асьцярожна: «адступнік, душапрадавець! Бацькаву магілу паражаргаў, каб у іх зладзейскія рукі лізаць!»

МАРЫЛЯ. Але ты бязь іх не абойдзешся. Рана — позна мусім ісьці к ім... па работу, па хлеб...

СЫМОН. Дык што-ж, калі я з мусу і пайду, як слуга іх, як нявольнік, але не па сваёй добрай волі — як іх падлыжнік і завушнік? Праца мая, нявольніка, дол толькі ім глыбейшы выкапае, а хлеб сьпечаны нявольніка рукамі ядам абернецца ў зубах іх. Але цяпер... цяпер ніяк к ім не пайду, хіба вяроўкамі пацягнуць, калі ёсьць на сьвеце такія вяроўкі моцныя. Там, над бацькавай магілай зарок сабе даў жывым ня зыйсьці з гэтага месца, з гэтага нашага разграбленага гнязда, дзе татавы ногі расу сьцюдзёную тапталі, а вочы яго шукалі на небе зоркі свайго шчасьця. І ня зыйду, і ня ўступлю, хай б'юць, рэжуць, катуюць!...

ДАНІЛКА. Э! часам і безь вяроўкі ў пятлю лезуць, як ліха прыпрэ.

МАРЫЛЯ. Супакойся, Сымонка! Пакіньма цяпер аб гэтым гаварыць. Можа есьці хочаш? Ёсьць трохі печанай бульбы. (Дастае кійком з папялішча бульбу).

СЫМОН. (Ядучы). Зьем, чаму ня зьем? Ад самага раньня нічога ў губе ня меў. А работы шмат было: сам мусіў яму выкапаць — ніхто не хацеў памагчы, бо, кажуць, для вісельніка страшна дол капаць. Ну, няхай ім будзе страшна. Але я ведаю — ня страх тут быў прычынай, а тое, што мы ня маем чым заплаціць і чым пачаставаць, ня маем за што даць ім гарэлкі, накарміць салам... Не хацелі, і ня трэба! Бязь іх сядзем за жалобным сталом. Ха-ха-ха! Няма чаго сказаць — багаты стол: бульба і вада, вада і бульба!... Памінкі па родным бацьку, па гаспадару з гаспадароў! Памінкі на раськіданай хаце, на здратаваных пасевах, па сумленным жыхару, па шчырым сяўцу! Што-ж? Да касьбы і жніва трэба ладзіцца, да вялікае касьбы і жніва! (Кідае бульбу са злосьцяй). Яда ў горла ня лезе — колам становіцца.

ДАНІЛКА. А ты вазьмі ды вадой прагані, або дай, я табе ў плечы пастукаю. Мне як засядзе кусок у горле, дык мамка як стукне, — глядзіш, кусочак і паляцеў куды трэба.

МАРЫЛЯ. (Да Сымона). Дзе Зося? Чаму яна з табой разам ня прыйшла?

СЫМОН. Дзе Зося? Дзе Зося? У яе пытайся, а не ў мяне, куды яна прападае? Пайшла з магілак раней за мяне, дык павіна была й раней прыйсьці.

МАРЫЛЯ. Каб хаця не заблудзіла дзе? Чаму ты адну яе пусьціў? Далёка тут да няшчасьця.

СЫМОН. Да няшчасьця мо' й недалёка: заблудзіць не заблудзіць, калі сама гэтага не зажадае. Але яна ўжо запраўды блудзіць ад першага дня бацькавае сьмерці. Мамка хвора і даверчыва, дык ня бачыш нічога і ня чуеш, а я ўсё бачу й чую. Паляцела перш ад мяне з магілак, каб у двор заляцецца — на панічовы гібкі стан падзівіцца і, як сучка, каля ног яго паласіцца.

МАРЫЛЯ. Скуль ты гэта ўзяў, каб Зося ... Зоська ... мая дачушка?...

СЫМОН. Так, так Зоська, твая дачушка, а мая сястрычка родная, у двор да паніча бегае, уся аколіца аб гэтым як у бубен б'е. Я ўсё ня верыў, пакуль сам не пераканаўся: заўчора ўсю ноч там прападала. Я відзеў, але маўчаў, бо яшчэ тата быў не пахаваны, не хацеў пры нябошчыку аб гэтым новым нашым няшчасьці казаць і калатню падыймаць.

МАРЫЛЯ. (Жаласьліва). Зоська ... мая Зосячка ... Вушам ня верыцца. Прыпамінаю: у той дзень, як выкідалі, яна прыбегла й казала, што там, ля рэчкі ... Ці-ж быць можа?... Зоська ... Зоська ...

СЫМОН. Хэ-хэ-хэ! Крамная скура, размасьленыя вочы, лісьлівае сьлінявае зюзюканьне, бяссорамныя ў кутку пацалункі — вось вам і палонка, у каторую простая дзяўчына валіцца, зрэнкі заплюшчыўшы. Безь вялікіх коштаў і торгу мае сабе бясчэльны самалюбік удаволь сьвежага й здаровага тавару ў нашай цёмнай прастоце. А плаціць за гэты тавар разьбітым шчасьцем, апаганенай славай і паскуднымі хваробамі... Зоська ... Зоська ... Ці-ж яна першая, або апошняя?...

ДАНІЛКА. Ты мусіць яшчэ не адпусьціўся на іх за тое, што яны адбілі ў цябе тваю Кастусю Дударышку, каторую пасьля таго, як бусел прынёс ёй малое, дык і яны прагналі, і ты прагнаў.

### ЗЬЯВА III

ТЫЯ-Ж і ЗОСЬКА

ЗОСЬКА. (Босая, але старанна прычасаўшыся й адзеўшыся. Увайшоўшы, нейкі час стаіць у няпэўнасьці, трымаючы штось пад хвартухом. Гаворыць ні-то баязьліва, ні-то вінавата; часам сьлёзы дрыжаць у яе голасе).

СЫМОН. Прыйшла такі нанач! Што-ж гэта табе зрабілася?

ЗОСЬКА. Чаму ты так гаворыш, братка? Ці-ж я калі-небудзь начавала дзе інача апрача свае хаткі, або цяпер не начую кажную ноч на гэтым ламацьці?

СЫМОН. А заўчора, дзе ўсю ноч прападала? Думаеш ня ведаю?

ЗОСЬКА. Нічога ты, браток, ня ведаеш, ох, як нічога! Мне так сумна й страшна зрабілася, што тата ляжаў тут непадалёк не пахаваны й такі жудасны з гэтай вяроўкай на шыі, што я ня выцярпела і, як учадзіўшы, у поле пабегла. І нідзе не начавала, нідзе, усю ночку на полі блудзіла. Нічога благога не рабіла, каб я так шчасьцейка свайго не аглядала!

МАРЫЛЯ. Не кляніся, дачушка! На што?... Ня трэба!

СЫМОН. А чаму сягоньня ў пару ня прыйшла з магілак? Чаму?

ЗОСЬКА. Сягоньня?... з магілак?... Так сабе!... Зайшлася на мінутку да цёткі, што зь дзядзькам у дварэ... Такая нейкая нуда ў дарозе агарнула, што не магла стрымацца й зайшлася... Ды вось нам яна — цётка — пазычыла трохі сала й хлеба. Кажа: «У вас сягоньня памінкі па тату, дык хоць павячэрацце на здаровейка». (Дастае прынесенае й аддае матцы). У цёткі пазычыла... Не хацелася мне спачатку браць, але пасьля так шкода вас усіх тут зрабілася, што ўзяла й пазычыла...

СЫМОН. Ведаю, у якой цёткі была ты з пазыкай, ведаю! Але чым ты аддаваць будзеш гэта пазычанае? Трэба-ж — яшчэ выдумала цётку нейкую? Сказала-б ужо проста, што была ў дзядзькі, у маладзенькага ды прыгожанькага, папраўдзе ласага да ўсялякіх пазык. Як табе ня грэх і ня стыдна? Яшчэ над бацькавай дамавінай пясок не завяў, а дачка пабягушкамі займаецца! Забылася, што ён, нябошчык, казаў табе перад апошняй сваёй мінутай. Я прыпомню, калі маеш такую кароткую памяць. Бацька казаў: «Не паніжайся перад дужым дачасьнікам, бо ён табе за тваё паніжэньне перад ім вочы заплюе паскуднай сьлінай, а душу й сэрца тваё зьмяшае з балотам атопкаў сваіх!» Забылася гэтых слоў, не дачакаўшыся першага маладзіка, пасьля скананьня таго, хто іх табе сказаў. Эх, Зоська! Зоська! (Шыбка выходзе. Зоська садзіцца, закрыўшы вочы рукамі).

### ЗЬЯВА IV

МАРЫЛА — ЗОСЬКА — ДАНІЛКА — ДЗЕЦІ

ДАНІЛКА. І што гэты Сымон думае з сваёй рызыкай? Ужо аж мяне пачынае злосьць на яго разьбіраць. Нацяпаў — нацяпаў языком, а каб хто папытаўся — на што? Вярхнік толькі мой да йскрыпкі сапсаваўся, і выйшла зь яго ні Богу сьвечка, ні чарту качарга. Пойдзем, малыя, шукаць новай дошчачкі! (Забірае Аленку й Юрку і выходзе).

**(Далей будзе)**